ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ

ПАРТЫЙНЫ
ШТОМЕСЯЧНІК
ОРГАН ЦК КП(б)Б

ГОД ВЫДАННЯ X

№ 8

Жнівень 1937 г.

ЗМЕСТ



Адрас рэдакцыі:
Менск, Чырвонаармейская вул.,
ЦК КП(б)Б, пакой 8.

Тэлефон рэдакцыі па камутатару
20000, даб. 50.





# Па-большэвіцку арганізаваць партыйную прапаганду

За апошнія гады партыя пад непасрэдным кіраўніцтвам таварыша Сталіна прарабіла велізарную работу ў галіне ідэйна-палітычнага і тэарэтычнага ўзбраення партыйных мас. Мільёны членаў і кандыдатаў партыі, комсамольцаў і спачуваючых ахоплены сістэмай партыйных школ і гурткоў, дзе яны вывучаюць гісторыю большэвізма, авалодваюць ленінска-сталінскім вучэннем. Перадавыя арганізацыі нашай партыі—Маскоўская і Ленінградская—паказваюць узоры пастаноўкі прапагандысцкай работы.

Менская партыйная арганізацыя, як сталічная, здавалася-б таксама павінна была служыць прыкладам для ўсіх астатніх арганізацый КП(б)Б у справе партыйнай прапаганды. Нажаль, у рэчаіснасці гэтага няма.

Даволі сказаць, што ва ўсёй Менскай партарганізацыі, якая налічвае каля 7.000 комуністаў, працуе толькі 12 гурткоў па ленінізму, толькі 7 гурткоў па вывучэнню паасобных прац Маркса. Уся сетка партасветы складаецца з 443 гурткоў, з якіх 323 вывучаюць гісторыю партыі па падручніку і 63 па першакрыніцах.

Яшчэ горш справа са зместам партвучобы, з якасцю прапаганды, з наведваннем школ, з дысцыплінай.

Большасць гурткоў, не гледзячы на доўгі час існавання, яшчэ толькі падыходзіць да вывучэння курса гісторыі партыі. Так, у Сталінскім раёне 12 гурткоў за цэлы год вывучылі толькі першую тэму па гісторыі партыі, а 20 дайшлі да трэцяй тэмы. У Кагановіцкім раёне 8 гурткоў закончылі толькі першую тэму, а каля 17 гурткоў яшчэ вывучаюць другую і трэцюю тэмы. Рад гурткоў, працуючы па 2—3 гады, яшчэ не закончыў праграмы. За ўвесь мінулы навучальны год 57 з 82-х гурткоў Сталінскага раёна, 35 з 92-х Кагановіцкага і амаль 70% гурткоў Варашылаўскага раёна вывучаюць яшчэ дакастрычніцкі перыяд.

Адсюль відаць, што вывучэнне гісторыі нашай партыі ў Менскай партарганізацыі было шкодніцкі правалена. Партыйныя школы і гурткі па вывучэнню гісторыі партыі былі ператвораны ў самыя звычайныя гурткі бягучай палітыкі. У дадатак працавалі яны не рэгулярна.

У такім самым становішчы вывучэнне гісторыі партыі знаходзіцца і ў іншых арганізацыях КП(б)Б.

Узяць, к прыкладу, горад Мазыр. У гэтым акруговым цэнтры партшколай кіраваў інструктар райкома тав. Трэйстэр. Пачынаючы

з 1926-27 года, слухачы праходзяць праграму кандыдацкай школы, нібы ўсё яшчэ не падрыхтаваліся да вывучэння гісторыі партыі. У Азяранскай партшколе Тураўскага раёна за апошнія два гады пройдзены толькі дзве тэмы. У Петрыкаўскім раёне ні адзін гурток не пачынаў вывучаць гісторыю партыі. Партыйныя школы ў Нараўлянскім, Талачынскім і іншых раёнах у апошнія месяцы зусім перасталі працаваць. У Слуцкім, Бабруйскім, Аршанскім, Нараўлянскім, Талачынскім раёнах не праводзяцца семінары для прапагандыстаў, не працуюць семінары раённага партактыва. У раёнах Менска ўжо два месяцы арганізуюць семінары, складаюць спісы, але работы не відаць.

Зараз высняецца, што партвучоба і асабліва вывучэнне гісторыі партыі свядома зрываліся ворагамі народу, якія пралезлі ў кіраўніцтва партпрапагандай. Засеўшы ў Інстытуце гісторыі партыі, у Менскім гаркоме і паасобных райкомах, ворагі рабілі ўсё, што толькі маглі, каб разваліць партыйную прапаганду. Яны добра разумелі, што чым ніжэй будзе ідэйна-палітычны ўзровень комуністаў, тым павальней будзе біцца пульс партыйнага жыцця, тым слабей стане пільнасць партарганізацыі і кожнага-яе члена.

Нажаль, нельга сказаць, што райкомы партыі і пярвічныя партарганізацыі ўжо як след узяліся за ўпарадкаванне партыйнай прапаганды. Рады прапагандыстаў усё яшчэ засмечаны трацкісцкімі, правымі элементамі і іншымі ворагамі. Толькі за апошні час у Сталінскім раёне выкрыта 6, у Кагановіцкім 8 ворагаў народу, якія зацясаліся ў рады прапагандыстаў. На заводзе «Большэвік» доўгі час рэкламавалі Шэйн, як лепшую прапагандыстку, а зараз яна выключана з партыі за сувязь з ворагамі. У Менскім гаркоме доўгі час лічыўся лепшым кансультантам па гісторыі партыі і «кіраваў» семінарамі прапагандыстаў дэзерцір з Чырвонай Арміі, бундавец Немец. Гаркомаўскі актыў кансультантаў і лектароў у значнай сваёй частцы складаўся з выкрытых зараз ворагаў народу. Такія плады прынесла злачынная бесклапотнасць аддзела партпрапаганды ЦК КП(б)Б, Менскага гаркома і райкомаў партыі.

Бюро ЦК КП(б)Б, разгледзеўшы 27 жніўня пытанне аб становішчы партпрапаганды і заслухаўшы справаздачы кіраўнікоў Менскай гарадской і Мазырскай акруговай партарганізацый, зусім правільна зняло з работы загадчыка аддзела агітацыі і прапаганды ЦК КП(б)Б Готфрыда за яўны правал справы прапаганды.

Пленум Менскага гаркома партыі, які адбыўся 11 верасня, за грубае ігнараванне ўказанняў ЦК ВКП(б) і за правал арганізацыі справы прапаганды марксізма-ленінізма ў сталіцы БССР зняў з работы другога сакратара гаркома Літвіна і вывеў яго са складу членаў бюро і пленума гаркома.

На пленуме з усёй рэзкасцю выявілася, што як гарком КП(б)Б, так і горрайкомы пагарджалі пытаннямі партпрапаганды. У дні партыйнай вучобы праводзіліся розныя пасяджэнні і нарады, якія адрывалі кіруючы партыйны актыў ад наведвання заняткаў і кіраўніцтва партвучобай на прадпрыемствах. Раённыя партыйныя работнікі рэдка наведвалі заняткі школ і гурткоў. Райкомы партыі ні разу не заслухалі справаздачы прапагандыстаў, не цікавіліся іх работай, не дапамагалі ў пастаноўцы прапаганды.

Пленум Менскага гаркома партыі вынес палітычна рэзкую ацэнку становішча прапаганды ў сталіцы БССР і вызначыў рад канкрэтных

мер для рэалізацыі ўказанняў ЦК ВКП(б) і рашэнняў бюро ЦК КП(б)Б аб партпрапагандзе.

Выяўленыя ў пастаноўцы партыйнай прапаганды факты шкодніцтва павінны паслужыць перасцярогай і ўрокам для ўсіх партарганізацый КП(б)Б. Сакратары гаркомаў, райкомаў і пярвічных партарганізацый абавязаны моцна ўзяцца за арганізацыю і кіраўніцтва партпрапагандай, уважліва падбіраць і кантраляваць кадры прапагандыстаў, усямерна дапамагаючы ім у рабоце.

Ленін і Сталін заўсёды вучылі нас уменню знаходзіць асноўнае звяно ў ланцугу нашай работы, ухапіўшыся за якое, можна было-б выцягнуць увесь ланцуг і ісці наперад. Такім асноўным, галоўным звяном у сучасных умовах з'яўляецца аўладанне большэвізмам, палітычная асвета і большэвіцкая загартоўка нашых кадраў.

Авалодваць большэвізмам—значыць, перш за ўсё, клапатліва павышаць ідэйна-тэарэтычны ўзровень нашых кадраў, вывучаць рэвалюцыйную тэорыю Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна, якая асвятляе шлях нашай практыцы, дае правільную рэвалюцыйную перспектыву, дапамагае распазнаваць і выкрываць ворагаў партыі і народу.

Нашы партыйныя кадры павінны асабістым прыкладам паказваць, як трэба змагацца за аўладанне большэвізмам.

Таварыш Сталін гаварыў:

> «Я думаю, што калі-б мы змаглі, калі-б мы здолелі нашы партыйныя кадры знізу даверху падрыхтаваць ідэалагічна і загартаваць палітычна такім чынам, каб яны маглі свабодна арыентавацца ва ўнутранай і міжнароднай абстаноўцы, калі-б мы маглі зрабіць іх зусім даспелымі ленінцамі, марксістамі, здольнымі вырашаць без сур'ёзных памылак пытанні кіраўніцтва краінай, то мы вырашылі-б гэтым дзевяць дзесятых усіх нашых задач».

Такое значэнне адводзіць таварыш Сталін, уся наша партыя пытанням пастаноўкі прапаганды марксізма-ленінізма.

Каб добра паставіць справу прапаганды марксізма-ленінізма, неабходна неадкладна заняцца падборам і падрыхтоўкай прапагандысцкіх кадраў.

У пастанове ЦК ВКП(б) «Аб становішчы заняткаў у гуртках па гісторыі партыі завода імя Петроўскага (Днепрапетроўск)» прама ўказана, што для павышэння ведаў прапагандыстаў неабходна арганізаваць у семінарах лекцыі па гісторыі партыі, па ўсеагульнай гісторыі і гісторыі СССР. Гэта ўказанне ў нас усё яшчэ не выконваецца, што прыводзіць да зрыву заняткаў і развалу семінараў. Гаркомы і райкомы КП(б)Б павінны неадкладна арганізаваць сур'ёзную работу з прапагандыстамі, сканцэнтраваўшы ўсю гэтую работу пры гаркомах і райкомах. Значнае месца неабходна адвесці лекцыям па гісторыі партыі, па ленінізму, па гісторыі СССР, па ўсеагульнай гісторыі, па пытаннях міжнароднай і ўнутранай палітыкі.

З пагардлівымі, небольшэвіцкімі адносінамі да партыйнай прапаганды неабходна рашуча пакончыць. Пытаннем прапаганды большэвізма абавязан займацца асабіста кожны партыйны кіраўнік.

Вучоба камуністаў, іх большэвіцкая загартоўка і ідэйна-палітычны рост—вось што павінна быць асновай работы ўсіх партыйных арганізацый. Для вывучэння гісторыі нашай большэвіцкай партыі, яе барацьбы з ворагамі камунізма, яе арганізуючай ролі ў вызваленні народаў нашай краіны ад капіталістычнага рабства трэба вылучаць

лепшых прапагандыстаў, да канца праверапых, беззаветна адданых справе комунізма, умеючых глыбока і ўдумчыва несці ў масы большэвіцкае слова.

Работа партыі ў новых умовах, ва ўмовах павароту ў палітычным жыцці краіны ў сувязі з увядзеннем новай Сталінскай Канстытуцыі, патрабуе карэннага пералому і ў справе пастаноўкі прапаганды вучэння Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна. Задача большэвіцкай прапаганды і агітацыі—выхаваць у партыйных і непартыйных большэвікоў марксісцка-ленінскі светапогляд, узброіць іх глыбокім веданнем гістарычнага мінулага нашай слаўнай ленінска-сталінскай партыі, яе выпрабаваных метадаў барацьбы з усякімі ворагамі, завастрыць большэвіцкую пільнасць.

Акруткомы, гаркомы, райкомы партыі, а таксама кіраўнікі пярвічных партарганізацый абавязаны неадкладна прыняць канкрэтныя меры па паляпшэнню партыйнай прапаганды, памятаючы, што яна з'яўляецца магутным сродкам павышэння рэволюцыйнай пільнасці комуністаў.

**М. І. Калінін**

# Палажэнне аб выбарах у Вярхоўны Совет Саюза ССР і задачы Советаў

Палажэнне аб выбарах у Вярхоўны Совет СССР, прынятае IV сесіяй Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта СССР, ёсць закон, які вызначае парадак і форму выбараў выбаршчыкамі сваіх дэпутатаў у Вярхоўны Совет СССР. Гэты закон пабудован цалкам і поўнасцю на аснове Сталінскай Канстытуцыі Совецкага Саюза.

Якімі-ж асаблівасцямі характарызуецца наша выбарчая сістэма? Выбары з'яўляюцца ўсеагульнымі, г. зн. грамадзяне Саюза, якім да дня выбараў споўнілася 18 год, маюць права выбіраць і быць выбранымі ў Вярхоўны Совет СССР. Гэта значыць, што ўся наша совецкая моладзь, пачынаючы з 18-гадовага ўзросту, разам з усімі грамадзянамі краіны прыме актыўны ўдзел у выбарах. Такі шырокі ахват выбарчымі правамі насельніцтва ёсць толькі ў Совецкім Саюзе. Наўрад ці якая-небудзь з самых дэмакратычных краін капіталістычнага свету можа дазволіць сабе такую раскошу, бо даць сапраўднае, не фармальнае выбарчае права ўсяму народу—значыць мець народны ўрад, урад, асноўнай мэтай якога, безумоўна, будзе барацьба з капіталізмам.

У буржуазных краінах капіталістычная кліка ўсё больш і больш разбурае так званую буржуазную дэмакратыю, імкнучыся да непрыкрытага, голага гвалту над народнымі масамі.

У зусім іншым, якраз процілеглым, становішчы знаходзіцца СССР. У нас рабочы клас і калгаснае сялянства стаяць ва ўладзе. Авангард працоўных—комуністычная партыя—мае сваёй мэтай пабудову комуністычнага грамадства, што з'яўляецца і мэтай рабочага класа і яго сатаварыша па барацьбе—калгаснага сялянства. І чым шырэй, паўней і глыбей будуць удзельнічаць працоўныя масы ў палітычным жыцці краіны, тым больш забяспечваецца і ўмацоўваецца совецкі лад.

Вось чаму наша ўсеагульнасць выбараў нічога не мае агульнага з так званымі «усеагульнымі» выбарамі ў капіталістычных краінах. У нас яна выцякае з глыбокіх інтарэсаў рабочых і сялян, якія стаяць ва ўладзе. У капіталістычнай дзяржаве ўсеагульнасць выбараў разлічана на ашуканства, на лоўлю прастакоў з асяроддзя працоўных. Рэкламуючы ўсеагульнасць выбараў, урады капіталістычных краін у сваіх законах аб выбарах пад тым ці іншым выглядам (аседласць, узрост, маемаснае становішча і т. д.) уключаюць столькі абмежаванняў, што ад усеагульнасці выбарчага права нічога і не застаецца.

У нашым законе аб выбарах ёсць толькі два абмежаванні: гэта—пазбаўленне выбарчых правоў страціўшых розум і асоб, асуджаных

судом. Прычым для асоб асуджаных суд спецыяльна агаварвае пазбаўленне выбарчых правоў на пэўны тэрмін. Але і ў гэтым выпадку рашэнне пытання аб пазбаўленні выбарчых правоў фактычна перадана народу, бо народны суд у Совецкім Саюзе выбіраецца грамадзянамі раёна на аснове ўсеагульнага, прамога і роўнага выбарчага права пры тайным галасаванні. З гэтага відаць, як вяліка давер'е законадаўца да народных мас. Ды інакш і быць не можа, бо совецкая ўлада—улада народу і сваёй апорай мае рабочы клас і калгаснае сялянства ўсіх нацыянальнасцей СССР.

Артыкул другі Палажэння аб выбарах гаворыць: «Усе грамадзяне СССР, дасягнуўшыя 18 год, незалежна ад расавай і нацыянальнай прыналежнасці, веравызнання, адукацыйнага цэнза, аседласці, сацыяльнага паходжання, маемаснага становішча і мінулай дзейнасці, маюць права ўдзельнічаць у выбарах дэпутатаў і быць выбранымі ў Вярхоўны Совет СССР».

Выбары дэпутатаў з'яўляюцца роўнымі: кожны грамадзянін мае адзін голас; усе грамадзяне прымаюць удзел у выбарах на роўных асновах. Для многіх грамадзян гэты артыкул служыць як-бы датаю гісторыі. Моладзь, вырасшая ў совецкіх умовах, інакш і не мысліць, яна не разумее галасавання не ў роўных умовах.

Іншы малюнак у краінах буржуазнай дэмакратыі, дзе юрыдычная роўнасць служыць прыкрыццём фактычнай няроўнасці ў жыцці і ў прыватнасці няроўнасці ў галасаванні.

Я не буду гаварыць аб юрыдычнай «роўнасці», якая выцякае з буржуазных законаў. Якая можа быць роўнасць паміж фабрыкантам і рабочым, паміж памешчыкам і селянінам? Але і гэта юрыдычнае права на роўнасць зуродавана рознастайнымі абмежаваннямі, і, як правіла, усе абмежаванні накіраваны супроць незаможных класаў. Возьмем, к прыкладу, цэнз аседласці, калі права выбіраць прадастаўлена асобам, пражыўшым не менш поўгода ці не менш 2 год у данай мясцовасці (абшчыне). Зразумела, бядняк ці беспрацоўны вымушан часцей мяняць кватэру, чым уласнік дома. Фабрыканты, банкіры ў іншых краінах маюць два, тры галасы—па месту знаходжання фабрыкі і па месту свайго жыхарства. Паміма таго, яны яшчэ могуць рабіць націск на служачых сваіх прадпрыемстваў. Можна напісаць цэлыя томы з гісторыі буржуазных парламенцкіх выбараў аб тысячах хітрых махінацый, якія накіраваны на тое, каб адштурхнуць народныя масы ад удзелу ў выбарах.

Артыкул 4 Палажэння, грунтуючыся на 137 арт. Канстытуцыі СССР, гаворыць аб поўнай роўнасці жанчын з мужчынамі, яны карыстаюцца правам выбіраць і быць выбранымі нароўні з мужчынамі. Для лепшага разумення гэтага артыкула добра прачытаць твор Бебеля—«Жанчына і соцыялізм». Тады будзе ясней неабходнасць гэтага артыкула не толькі ў Канстытуцыі СССР, але і ў 1-м раздзеле «Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет СССР».

Артыкул пяты ўзнаўляе арт. 138 Канстытуцыі СССР. Грамадзяне, якія знаходзяцца ў радах Чырвонай Арміі, карыстаюцца правам выбіраць і быць выбранымі нароўні з усімі грамадзянамі. Падобнага артыкула вы не сустрэнеце ні ў буржуазных канстытуцыях, ні ў буржуазных выбарчых законах.

Капіталісты імкнуцца ахаваць сваю армію ад палітычнага ўздзеяння пролетарскіх і радыкальна-дробнабуржуазных партый. Іх двудушнае талкаванне, што армія стаіць па-за партыямі, што яе задача—ахоўваць граніцы дзяржавы, абвяргаецца поўнасцю сучасным палітычным

становішчам. Мы ведаем, што ў радзе краін, як напрыклад, у Японіі, вярхушка арміі робіць палітыку, дыктуе свае ўмовы ўраду. Вядома, клікай ваенных генералаў кіруюць таксама капіталістычныя групоўкі, але гэта даказвае, што ваенная вярхушка капіталістычных краін цесна звязана з капіталістычнай вярхушкай.

У нас армія—народная, яна жыве тымі-ж мыслямі, ідэямі і імкненнямі, як і ўвесь совецкі народ. Наша армія не толькі ахоўвае радзіму, яна прымае ўдзел у будаўніцтве соцыялізма, яна цесна звязана з усім совецкім народам, горача любіма ім.

Удзел Чырвонай Арміі ў выбарах у Совет працоўных яшчэ больш паглыбляе сувязь арміі з народам. Гэтай сувязі, як чорт ладану, баяцца дапусціць у сябе капіталісты. Але гэту сувязь асабліва вітае совецкая ўлада, за гэту сувязь змагаецца комуністычная партыя, бо гэта сувязь служыць справе абароны краіны.

Артыкул шосты Палажэння на падставе 141 артыкула Канстытуцыі вызначае, што кандыдаты пры выбарах выстаўляюцца па выбарчых акругах. Выстаўленне кандыдатаў па выбарчых акругах мае вялікае значэнне. Такая сістэма выбараў дае гарантыю, што ў Вярхоўны Совет будуць выбраны людзі, персанальна вядомыя сваей палітычнай, грамадскай і вытворчай работай выбаршчыкам акругі, дзе яны будуць выстаўлены.

## Аб спісах выбаршчыкаў

Складанне спісаў выбаршчыкаў ускладаецца у гарадах на гарадскія советы, у гарадах з раённым падзелам—на раённыя советы, у сёлах—на сельскія советы.

Гэта велізарная і адказная работа. Клапатлівыя советы ужо зараз вядуць работу па складанню спісаў.

Складанне спісаў—работа тэхнічная, але можна з упэўненасцю сказаць, што якасць гэтых спісаў будзе характарызаваць становішча, працаздольнасць і культурнасць совецкага апарата, совецкіх кадраў. У спісы выбаршчыкаў уключаюцца усе грамадзяне, якія маюць выбарчае права і пражываюць (настаянна ці часова) к моманту складання спісаў на тэрыторыі данага совета, якім да дня выбараў споўнілася 18 год (арт. 8).

У пераважнай большасці на тэрыторыі кожнага сельскага совета будзе па некалькі выбарчых участкаў, а ў вялікіх гарадах іх будзе да сотні; значыць, перш чым прыступіць да складання спісаў выбаршчыкаў, прыдзецца спачатку намеціць і тэрыторыю, хоць-бы прыблізна, выбарчых участкаў.

Мясцовыя советы ужо зараз, не трацячы часу, павінны выпрацаваць для сябе, якім шляхам яны азнаёмяць насельніцтва са спісам выбаршчыкаў і як будзе забяспечана магчымасць праверкі з боку выбаршчыкаў правільнасці ўнясення іх ў спісы.

Артыкул 15 Палажэння дае права выбаршчыкам пры перамене месца свайго прабывання з дня агляшэння спісаў да дня выбараў галасаваць па месцу новага свайго прабывання. Але ў гэтым выпадку яны павінны заявіць Совету аб сваім ад'ездзе, каб іх маглі адзначыць у спісе выбаршчыкаў, як выбыўшых, затым яны павінны ўзяць з сабою ад совета, дзе яны раней жылі, пасведчанні на права галасавання ў іншым месцы. Гэта пасведчанне дае выбаршчыку права ўключэння яго ў выбарчы спіс па новаму месту жыхарства (прабывання), дзе ён будзе галасаваць нароўні з усімі грамадзянамі. Прымаючы на ўвагу

рухомасць нашага насельніцтва, советам, у асаблівасці гарадскім, трэба быць гатовымі да задавальнення гэтых патрабаванняў выбаршчыкаў. А ў такіх цэнтрах, як Масква, Ленінград, Кіеў і т. д., відаць, прыдзецца раенным советам стварыць асобыя апараты па выкананню гэтых работ.

Заява аб няправільнасці ў спісе выбаршчыкаў падаецца ў Совет дэпутатаў працоўных, які апублікаваў спісы (арт. 16). Пры нязгодзе з рашэннем совета заявіцель можа падаць скаргу ў народны суд, рашэнне якога канчатковае.

## Аб выбарчых акругах па выбарах у Совет Саюза і Совет Нацыянальнасцей

Выбарчая акруга па выбарах у Совет Саюза складаецца па прынцыпу: 300.000 насельніцтва на акругу (арт. 21). Кожная выбарчая акруга пасылае аднаго дэпутата. Зараз разгарнулася работа на месцах і ў цэнтры па арганізацыі выбарчых акруг. Выбарчыя акругі па выбарах у Совет Саюза намячаюцца у межах тэрытарыяльных граніц краеў, саюзных, аўтаномных рэспублік і абласцей, прычым, як правіла, адміністрацыйныя раёны будуць уваходзіць у акругу цэлымі. Практыка паказала, што не ва ўсіх акругах будзе дакладна па 300.000 насельніцтва, але гэтыя адхіленні ад нормы пры першай наметцы аказаліся нязначнымі, яны, як правіла, не выходзяць з межаў 3—5 процантаў. Матэматычную дакладнасць пры гэтым размеркаванні насельніцтва па акругах, зразумела, правесці і немагчыма: кожны-ж дзень адбываецца прырост і змяншэнне насельніцтва, якія могуць быць удакладнены толькі наступным ўчотам.

Цэнтр выбарчай акругі павінен быць звязан шляхамі зносін з участкамі, якія ўваходзяць у гэту акругу, каб выбаршчыкі і члены участковай выбарчай камісіі маглі парахунаўча легка дабрацца ў акруговую выбарчую камісію. Затым патрэбна, калі не тэлефонная, то ва ўсякім выпадку тэлеграфная сувязь выбарчых участкаў з акруговай выбарчай камісіяй. Пажадана, каб акруговы цэнтр меў салідную культурную базу і друкарню, якая-б магла абслужыць выбары ў акрузе. Наогул выбар акруговага цэнтра і прыпіска да яго тых ці іншых раёнаў патрабуюць вялікай удумлівасці і ведання не толькі геаграфіі, але і сродкаў сувязі, шляхоў зносін і інш.

Некалькі інакш будуць арганізаваны акругі па выбарах у Совет Нацыянальнасцей. Выбарчая акруга па выбарах у Совет Нацыянальнасцей складаецца па прынцыпу: 25 акруг па кожнай саюзнай рэспубліцы, 11 акруг па кожнай аўтаномнай рэспубліцы, 5 акруг па кожнай аўтаномнай вобласці і адна выбарчая акруга ў кожнай нацыянальнай акрузе. Кожная акруга па выбарах у Совет Нацыянальнасцей выбірае аднаго дэпутата. Пры стварэнні акруг па выбарах у Совет Нацыянальнасцей мы будзем мець вялікую розніцу па колькасці насельніцтва ў гэтых акругах. Гэта таму, што насельніцтва кожнай саюзнай рэспублікі з усімі уваходзячымі ў яе аутаномнымі рэспублікамі і абласцямі дзеліцца на 25 акруг. Колькасць-жа насельніцтва ў саюзных рэспубліках неаднолькавая, таму і лік насельніцтва у акругах па выбарах у Совет Нацыянальнасцей неаднолькавы. Тое-ж самае атрымліваецца і пры падзеле кожнай аўтаномнай рэспублікі на 11 акруг, кожнай аўтаномнай вобласці на 5 акруг. На падставе арт. 35 Канстытуцыі СССР, кожная з аўтаномных рэспублік будзе мець па адзінаццаць акруг па выбарах у Совет Нацыянальнасцей. Значыць, выбар-

шчыкі гэтых рэспублік пры галасаванні будуць мець тры выбарчыя бюлетэні, тры спісы кандыдатаў у Вярхоўны Совет. Адзін у Совет Саюза ад 300 000 насельніцтва, адзін у Совет Нацыянальнасцей (ад РСФСР) і адзін у Совет Нацыянальнасцей ад сваей аўтаномнай рэспублікі. Выбаршчыкі, якія пражываюць у краях і абласцях (за выключэннем аўтаномных рэспублік, нацыянальных абласцей і акруг) РСФСР, напрыклад, у Маскоўскай, Варонежскай абласцях, у гг. Ленінградзе, Маскве, Растове-на-Дану і т. д., будуць мець два выбарчыя бюлетэні. Выбаршчыкі Украіны таксама будуць мець два бюлетэні, а выбаршчыкі Малдаўскай АССР будуць мець тры выбарчыя бюлетэні. Такім чынам, на падставе арт. 22 Палажэння аб выбарах усе, нават самыя малыя па колькасці, народы СССР будуць мець сваіх прадстаўнікоў у Вярхоўны Совет СССР.

Гэта і ёсць ажыццяўленне на практыцы нацыянальнай палітыкі Леніна—Сталіна.

Стварэнне выбарчых акруг па выбарах у Совет Саюза і Совет Нацыянальнасцей праводзіцца прэзідыумам Вярхоўнага Совета СССР (арт. 23), і спіс акруг апублікоўваецца адначасова з устанаўленнем дня выбараў (арт. 24).

## Аб выбарчых участках

Для прыёму і падліку галасоў выбарчыя акругі дзеляцца на выбарчыя ўчасткі, яны з'яўляюцца агульнымі для выбараў у Совет Саюза і Совет Нацыянальнасцей.

Стварэнне іх у гарадах праводзіцца гарадскімі советамі, а ў гарадах з раённым падзелам—раённымі советамі і ў сельскіх мясцовасцях—раённымі советамі (арт. арт. 25 і 26).

Часта задаюць пытанне: якім чынам адзін выбарчы ўчастак у дзень выбараў можа абслужыць, напрыклад, у Дагестанскай аўтаномнай рэспубліцы, тры выбарчыя акругі: у Совет Саюза, у Совет Нацыянальнасцей ад РСФСР і ад Дагестанскай аўтаномнай рэспублікі? Я павінен да гэтага дадаць, што ў невялікім па колькасці насельніцтва ўчастку, мабыць, будзе адна выбарчая скрынка.

Выбарчы ўчастак з'яўляецца адзіным пунктам для прыёму бюлетэняў, а падлік галасоў па ўсіх бюлетэнях і перадача вынікаў галасавання адпаведным акруговым выбарчым камісіям—справа ўчастковай выбарчай камісіі.

Тэрыторыя сельсовета з лікам жыхароў да 2 тысяч чалавек, як правіла, складае адзін выбарчы ўчастак. У станіцах, вёсках, сёлах з насельніцтвам ад 500 да 2 тысяч арганізуецца асобны ўчастак. А ў поўночных і усходніх раёнах, дзе пераважаюць дробныя паселішчы, дапускаецца арганізацыя ўчасткаў з колькасцю не менш ста жыхароў.

Гарады і сельскія паселішчы, якія маюць звыш двух тысяч насельніцтва, дзеляцца на выбарчыя ўчасткі з разлікам адзін выбарчы ўчастак на 1.500—2.500 чалавек насельніцтва. Судны з колькасцю не менш 50 выбаршчыкаў, якія знаходзяцца ў плаванні, могуць складаць асобны выбарчы ўчастак.

Пры больніцах, радзільных дамах, дамах інвалідаў, санаторыях з колькасцю выбаршчыкаў не менш 50 ствараюцца асобныя выбарчыя ўчасткі.

Выбарчыя ўчасткі арганізуюцца не пазней чым за 45 дзён да выбараў.

Работа па арганізацыі выбарчых акруг зараз ідзе па усяму Саюзу, можна сказаць, праведзена ужо даволі вялікая папярэдняя да гэтага падрыхтоўка, але арганізацыя выбарчых участкаў яшчэ нідзе не пачата. Неабходна да гэтага прыступіць, і прыступіць як мага хутчэй. Палажэнне аб выбарах дае ясныя ўказанні, як гэта трэба рабіць. Трэба спяшацца яшчэ і таму, што спісы выбаршчыкаў складаюцца па выбарчых участках. Без папярэдняй наметкі выбарчага ўчастка нельга прыступіць да складання спісу выбаршчыкаў. Пры гэтым мясцовыя советы будуць мець справу не толькі з тэрыторыяй участкаў: ім трэба падумаць і аб памяшканні, якое можна будзе скарыстаць у час выбараў. Адным словам, практычнай работы будзе многа, і дзе яе раней пачнуць, там, бясспрэчна, будуць лепш падрыхтаваны да выбараў.

## Аб выбарчых камісіях

Цэнтральная выбарчая камісія па выбарах у Вярхоўны Совет СССР складаецца з прадстаўнікоў грамадскіх арганізацый і таварыстваў працоўных і зацвярджаецца прэзідыумам Вярхоўнага Совета СССР адначасова з апублікаваннем дня выбараў (арт. 34).

Па таму-ж прынцыпу ствараюцца выбарчыя камісіі па выбарах у Совет Нацыянальнасцей у кожнай саюзнай і аўтаномнай рэспубліцы, аўтаномнай вобласці і нацыянальнай акрузе. Зацвярджаюцца яны прэзідыумамі вярхоўных советаў рэспублік і советамі дэпутатаў працоўных аўтаномных абласцей і нацыянальных акруг. Яны наглядаюць за няўхільным выкананнем у ходзе выбараў «Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет СССР», разглядаюць скаргі на няправільныя дзеянні выбарчых камісій і выносяць па іх канчатковыя рашэнні.

Акруговыя выбарчыя камісіі па выбарах у Совет Саюза і па выбарах у Совет Нацыянальнасцей складаюцца з прадстаўнікоў грамадскіх арганізацый і таварystваў працоўных у складзе старшыні, намесніка старшыні, сакратара і васьмі членаў. Прычым акруговая выбарчая камісія па выбарах у Совет Саюза зацвярджаецца краявымі і абласнымі советамі дэпутатаў працоўных у рэспубліках, дзе ёсць краявы ці абласны падзел, і вярхоўнымі советамі, дзе такога падзелу няма. Выбарчыя акруговыя камісіі па выбарах у Совет Нацыянальнасцей зацвярджаюцца Вярхоўнымі советамі рэспублік і советамі дэпутатаў працоўных аўтаномных абласцей.

Акруговыя выбарчыя камісіі рэгіструюць выстаўленых кандыдатаў у Совет Саюза і Совет Нацыянальнасцей, забяспечваюць участковыя камісіі выбарчымі бюлетэнямі, робяць падлік галасоў і выдаюць выбранаму дэпутату пасведчанне аб абранні.

Акруговыя па выбарах у Совет Саюза выбарчыя камісіі, апрача гэтага, наглядаюць за своечасовай арганізацыяй выбарчых участкаў советамі і выканкомамі і своечасовым складаннем і вывешваннем да ўсеагульнага ведама спісаў выбаршчыкаў, рассылаюць па ўчастках выбарчыя канверты.

Участковыя выбарчыя камісіі арганізуюцца па прынцыпу вышэйстаячых выбарчых камісій і зацвярджаюцца ў гарадах гарадскімі советамі, у гарадах з раённым падзелам — раённымі советамі, у сельскіх мясцовасцях — раённымі советамі — не пазней чым за 40 дзён да выбараў. Участковая камісія праводзіць па выбарчаму ўчастку прыём выбарчых бюлетэняў, падлік галасоў па кожнаму кандыдату ў дэпутаты Совета Саюза і Совета Нацыянальнасцей. Па сканчэнні галасавання і падліку справаводства па выбарах перадае ў акруговую па выбарах

у Совет Саюза і ў акруговую па выбарах у Совет Нацыянальнасцей выбарчыя камісіі.

На участковую выбарчую камісію ўскладзена праваджэнне галасавання выбаршчыкаў. Яна, так сказаць, твар да твару стыкаецца непасрэдна з масамі выбаршчыкаў, і таму на яе арганізацыю і асабовы падбор грамадскімі арганізацыямі і таварыствамі працоўных павінна быць звернута асаблівая ўвага. Ва ўсякім выпадку ў гэтай камісіі павінны быць людзі аўтарытэтныя для выбаршчыкаў. Такое галасаванне адбываецца ўпершыню, і трэба яго правесці максімальна арганізавана, што у вельмі вялікай ступені будзе залежаць ад умелага кіраўніцтва ўчастковай камісіі, ад дакладнага выканання закона аб выбарах.

## Аб парадку выстаўлення кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Совета СССР

Права выстаўлення кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Совета СССР вельмі шырокае: яго ажыццяўляюць як цэнтральныя органы грамадскіх арганізацый і таварыстваў працоўных, так і іх рэспубліканскія, краявыя, абласныя і раенныя органы, роўна як агульныя сходы рабочых і служачых па прадпрыемствах, чырвонаармейцаў па вайсковых часцях, а таксама агульныя сходы сялян па калгасах, рабочых і служачых соўгасаў—па соўгасах (арт. 57).

Гэта значыць, што рабочыя, калгаснікі, служачыя маюць поўную магчымасць вылучыць са свайго асяроддзя кандыдатуру у Вярхоўны Совет СССР. Гэта прадвызначае персанальнае абмеркаванне кандыдатур на масавых сходах як у горадзе, так і у весцы. Гэта гаворыць аб тым, што закон імкнецца звязаць цеснымі узамі вярхоўны орган СССР з шырокімі масамі народу.

Усе грамадскія арганізацыі і таварыствы працоўных, якія вылучаюць кандыдата ў дэпутаты Вярхоўнага Совета, абавязаны за трыццаць дзен да выбараў зарэгістраваць яго ў адпаведнай акруговай выбарчай камісіі і павінны прадставіць пратакол сходу за подпісамі членаў прэзідыума сходу, з указаннем іх узросту, месца жыхарства, найменавання арганізацыі, указання аб месцы, часе і колькасці ўдзельнікаў сходу; у пратаколе павінны быць указаны прозвішча, імя, імя па бацьку кандыдата, яго ўзрост, месца жыхарства, партыйнасць, заняткі. Апрача гэтага, павінна быць прыкладзена заява кандыдата аб яго згодзе балаціравацца па данай выбарчай акрузе.

Кожнай арганізацыі і таварыству працоўных, выставіўшым кандыдата, зарэгістраванага ў акруговай выбарчай камісіі, роўна як кожнаму грамадзяніну СССР, забяспечваецца права беспярэшкоднай агітацыі за гэтага кандыдата на сходах, у друку і іншымі спосабамі (арт. 61, 65, 70). Адсюль відаць, наколькі невялікі фармальнасці па выстаўленню кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Совета і наколькі вялікі клопаты па забеспячэнню правоў грамадскіх арганізацый і таварыстваў працоўных.

## Аб парадку галасавання

Выбары будуць праводзіцца у нерабочы дзень, з 6 гадзін раніцы да 12 гадзін ночы.

Дзень выбараў самы адказны. Ён падвядзе вынікі нашай агітацыйнай і арганізацыйнай падрыхтоўкі да выбараў. У асаблівасці вялікая адказнасць, ускладаемая на ўчастковыя выбарчыя камісіі, на іх членаў і старшынь. Парадак галасавання дасканала выказан у «Пала-

жэнні аб выбарах у Вярхоўны Совет СССР». Важна, каб, выконваючы гэты парадак, не зрабіць яго ў вачах выбаршчыкаў сцясняльным, лішнім. Бо ўвесь устаноўлены парадак дабіваецца адзінай мэты — агарадзіць выбаршчыкаў ад лішніх сцясненняў, забяспечыць тайну яго галасавання, даць магчымасць усей масе выбаршчыкаў выразіць сваю волю галасаваннем.

Кожны выбаршчык можа галасаваць толькі асабіста, з'яўляючыся ў памяшканне для галасавання і апускаючы выбарчыя бюлетэні ў запячатаным канверце ў выбарчую скрынку. Выбарчыя бюлетэні і канверт выбаршчык атрымлівае пры прад'яўленні ім сакратару участковай выбарчай камісіі свайго пасведчання асобы і пасля праверкі сакратаром, што даны грамадзянін унесен у выбарчы спіс па гэтаму выбарчаму ўчастку.

Затым ён ідзе ў ізаляваны ад іншых асоб пакой ці кабіну, спецыяльна прыстасаваную для запаўнення выбарчых бюлетэняў, дзе выкрэслівае няўгодных яму кандыдатаў, пакідае ў кожным бюлетэні прозвішча таго кандыдата, за якога хоча галасаваць, укладвае бюлетэні ў канверт і, заклеіўшы, апускае яго ў выбарчую скрынку. Відаць, ізаляваных пакояў ці кабін у выбарчым участку прыдзецца мець дзве-тры, каб не зацягваць чаргу галасуючых.

Такі ўвогуле працэс галасавання. Запросаў па гэтаму поваду вельмі многа, але мне здаецца, што раздзел VII «Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет СССР» дае поўны адказ на ўзнікаючыя пытанні аб парадку галасавання, трэба толькі ўважліва прачытаць гэты раздзел.

## Аб вызначэнні рэзультатаў выбараў

«Палажэнне аб выбарах у Вярхоўны Совет СССР» у цэлым адпасуецца на шырокія масы працоўных, яно накіравана на тое, каб як мага лепш забяспечыць выбарчыя правы грамадзян Савецкага Саюза. Арт. 85 гаворыць, што пры ўскрыцці выбарчых скрынак і падліку галасоў маюць права прысутнічаць спецыяльна на гэта ўпаўнаважаныя прадстаўнікі грамадскіх арганізацый і таварыстваў працоўных, а таксама прадстаўнікі друку.

Прызнаюцца несапраўднымі бюлетэні неўстаноўленага ўзору і колеру; паданыя без канверта ці ў канверце неўстаноўленага ўзору; з колькасцю кандыдатаў, якая перавышае лік выбіраемых дэпутатаў (арт. 90).

На падставе пратаколаў, паступіўшых ад участковых выбарчых камісій, акруговыя камісіі па выбарах падлічваюць рэзультаты галасавання.

Кандыдаты у дэпутаты Вярхоўнага Совета СССР, атрымаўшыя абсалютную большасць галасоў, г. зн. больш палавіны усіх галасоў, пададзеных па акрузе і прызнаных сапраўднымі, лічацца выбранымі (арт. 104).

Пасля падпісання пратакола старшыні акруговых па выбарах у Совет Саюза і Совет Нацыянальнасцей выбарчых камісій аглашаюць рэзультаты выбараў і выдаюць выбраным кандыдатам у дэпутаты пасведчанні аб іх абранні.

Гэтым заканчваецца ўвесь цыкл выбараў у Вярхоўны Совет СССР, вярней — заканчваецца грамадска-палітычная частка выбараў, бо работа цэнтральнай, рэспубліканскіх і акруговых выбарчых камісій яшчэ не спыняецца. Акруговыя камісіі па выбарах у Совет Нацыянальнасцей, а таксама ў Совет Саюза, свае пратаколы пасылаюць

у камісіі па выбарах у Совет Нацыянальнасцей саюзных і аўтаномных рэспублік і ў Цэнтральную выбарчую камісію. Цэнтральная выбарчая камісія рэгіструе выбраных дэпутатаў у Вярхоўны Совет і ўсё справаводства па выбарах здае мандатным камісіям Совета Саюза і Совета Нацыянальнасцей. Па прадстаўленню мандатнай камісіі палаты вырашаюць або прызнаць поўнамоцтвы, або скасаваць выбары асобных дэпутатаў.

Выбары ў Вярхоўны Совет Саюза па новаму выбарчаму закону на аснове Сталінскай Канстытуцыі ёсць новая веха ў гістарычным развіцці народаў СССР і ў гісторыі совецкага дзяржаўнага будаўніцтва. Дэмакратызацыя выбарчай сістэмы па прынцыпу ўсеагульнага, роўнага і прамога выбарчага права пры тайным галасаванні прывядзе ў рэзультаце яе ажыццяўлення да далейшага ўзмацнення палітычнай актыўнасці мас, уцягнення новых слаёў працоўных у кіраванне дзяржавай. Дыктатура пролетарыята будзе больш гібкай, а стала быць, больш магутнаю сістэмай дзяржаўнага кіраўніцтва рабочага класа грамадствам.

Новы выбарчы закон увасабляе ў сабе паслядоўны і да канца выграманы совецкі соцыялістычны дэмакратызм, ен сведчыць аб несакрушальнай сіле совецкай дзяржавы і совецкага народу, бязмежна адданага справе партыі Леніна—Сталіна, справе барацьбы за комунізм

Горбах

# Рашуча ліквідаваць вынікі шкодніцтва на ідэалагічным участку

Трыумф сталінскіх пяцігодак, вялікая хартыя праў працоўнага народу, герачныя учынкі сыноў соцыялістычнай радзімы, небывалы рост палітычнай актыўнасці і энтузіязму будаўнікоў соцыялізма, велізарны уздым матар'яльна-бытавога абслугоўвання працоўных соцыялістычнага грамадства—усе гэта прыводзіць у шаленства фашысцкіх мракабесаў.

**У імкненні падарваць магутнасць Савецкага Саюза яднаюцца рэакцыйныя элементы ўсіх капіталістычных краін. Уцягнуць народы** ў братазабойчую бойню і распаліць новую сусветную вайну—вось над чым працуюць фашысты усяго свету.

Следам за Абісініяй аб'ектам фашысцкай агрэсіі стала Іспанія. Фашысцкая Італія і Германія ўжо другі год знішчажаюць мірныя гарады Іспаніі, разараюць і забіваюць гераічны іспанскі народ. Карыстаючыся напружанай абстаноўкай ў Еўропе, японская ваеншчына, цынічна справакаваўшы інцыдэнт, уварвалася ў Кітай і, следам за **Манчжурыяй, хоча прыбраць яго к рукам.**

**З выключнай дакладнасцю пацвердзілася ўказанне таварыша** Сталіна на тое, што існуюць два ачагі вайны: на ўсходзе—Японія, на захадзе—Германія і Італія, што фашызм і імперыялістычныя клікі **рыхтуюць плацдарм для нападу на краіну Советаў.**

Важнейшым сродкам падрыхтоўкі вайны ў руках фашызма з'яўляецца шпіянаж, дыверсія і забойства. З гэтай мэтай замежныя разведкі засылаюць у СССР сваіх агентаў, вярбуюць унутры краіны дыверсантаў і шкоднікаў.

«Ці не ясна,—гаворыць таварыш Сталін, што пакуль існуе капіталістычнае акружэнне, будуць існаваць у нас шкоднікі, шпіёны, дыверсанты і забойцы, засылаемыя ў нашы тылы агентамі замежных дзяржаў».

**Трацкісты, зіноўеўцы і бухарынцы з'явіліся знаходкай для замежных разведак і ў першую чаргу для фашысцкай гестапо, поль**скай дэфензівы і японскага імперыялізма. Зверская нянавісць да працоўнага народу і грандыезных перамог соцыялізма, подласць, здрада і двурушніцтва—вось якасці, уласцівыя гэтым агідным адкідам чалавецтва, подлым наймітам фашызма. Прыкрываючыся партыйным білетам, трацкісты, бухарынцы і нацдэмы, як ланцужныя псы японо-германа-польскай разведкі, пры палітычнай слепаце і бесклапотнасці многіх комуністаў тварылі гнусную справу шпіянажу і дыверсіи. Патрабавалася гістарычнае выступленне таварыша Сталіна,

рашэнні лютаўскага і ліпеньскага пленумаў ЦК ВКП(б), каб узняць у многіх камуністаў пачуццё палітычнай адказнасці і бальшэвіцкай пільнасці, навучыць распазнаваць ворага, якой-бы лічынай ён ні прыкрываўся, і бязлітасна выкарчоўваць яго рэшткі.

Органы НКУС у апошні час выкрылі подлых шпіёнаў польскай дэфензівы ва многіх наркаматах і іншых установах нашай рэспублікі. Бенек, Дзякаў і іншыя ворагі народу не мала нашкодзілі соцыялістычнай гаспадарцы. Нашы гаспадарнікі і партыйныя работнікі не здолелі своечасова выкрыць ворагаў і часта садзейнічалі ім сваёй палітычнай слепатой і бяспечнасцю. Асабліва гэта адносіцца да работнікаў ідэалагічнага фронту. Страта рэволюцыйнай пільнасці, дзяляцтва, забыццё капіталістычнага акружэння і палітычнай адказнасці прывялі да таго, што своечасова не была выкрыта шкодніцкая работа ворагаў у вышэйшых навучальных установах, навукова-даследчых інстытутах і Акадэміі Навук.

Рашэнні партыі і ўрада аб вышэйшай школе з'явіліся магутным рычагом уздыму вышэйшай адукацыі ў адпаведнасці з патрабаваннямі соцыялістычнага грамадства. Нашы вышэйшыя навучальныя ўстановы акрэплі, палепшылі сваю матэр'яльную базу, павысілі якасць падрыхтоўкі спецыялістаў.

Вораг добра разумеў, што нармальная работа вышэйшых навучальных устаноў залежыць галоўным чынам ад забяспечанасці іх высокакваліфікаванымі, вытрыманымі ў марксісцка-ленінскім духу кадрамі, таму і накіраваў сюды сваю шкодніцкую дзейнасць.

Перш за ўсё ворагі народу, прабраўшыся на адказныя пасты ў совецкіх і радзе партыйных арганізацый, пастараліся паставіць сваіх людзей на чале інстытутаў. Так, Менскі пед'інстытут узначальваў трацкіст Мельцэр, потым Грыневіч; БДУ шпіёны Дзякаў, потым Кузмінскі; Гомельскі лесатэхнічны інстытут —нацдэм Карг; Менскі палітэхнічны інстытут—трацкіст Дружылоўскі, а за ім Мазелеў; Віцебскі ветзооінстытут—шкоднік Баздырэў і т. д.

Гэтыя «кіраўнікі» разгарнулі шкодніцкую работу непасрэдна ў інстытутах. Выконваючы заданні Дзякава і іншых шпіёнаў, яны сцягвалі ў інстытуты сваіх людзей. Так, Сташэўскі сцягнуў у Гомельскі пед'інстытут Ефільса, Беляева, Масойлава, Успенскага, Каляду і іншых мацёрых ворагаў народу. Нацдэм Карг у Гомельскім лесатэхнічным інстытуце сабраў да 30 былых афіцэраў царскай і белай арміі. Навадворац у Менскі інстытут нацменшасцей прыцягнуў ворагаў народу Ішанічнага, Рымашэўскага, Олешкевіча, Лоіку, Жарскага і інш., беражліва ахоўваючы іх ад грамадскай крытыкі. У гэтым інстытуце значная частка выкладчыкаў—выхадцы з буржуазных партый.

Пры блізарукасці і папушчэнстве партыйных арганізацый гэтыя мацёрыя ворагі адкрыта прапагандавалі ў сваіх лекцыях контррэволюцыйныя тэорыі. Так, у Гомельскім лесатэхнічным інстытуце контррэволюцыянер Паўлючэнка прыпадносіў студэнтам канструкцыі нямецкай мэблі, якая вырабляецца ў Германіі пасля прыходу Гітлера да ўлады і мае яўна выражаную фашысцкую свастыку. Гэтую мэблю ён характарызаваў як «выгодную, прыгожую і моцную», хоць ён ні ў якім разе не ўласціва ні адна з гэтых якасцей. Разам з тым Паўлючэнка ўтойваў ад студэнтаў практыку мэблевай вытворчасці ў СССР, Амерыцы і Францыі, дзе ёсць узоры мэблі выключна высокіх канструкцый і мастацкага афармлення.

У Горацкім сельскагаспадарчым інстытуце прафесар Найдзенаў прапаведваў шкодніцкую тэорыю аб тым, што чым прадукцыйней

жывёла, тым больш яна схільна да захворвання туберкулезам. Прафесар Улан выступіў з антымарксісцкім тэзісам аб нязменнасці генаў. Гэтыя контррэвалюцыйныя выступленні не атрымалі рашучага адпору.

У Гомельскім педагагічным інстытуце ворагі зусім распаясаліся, насычаючы лекцыі розным контррэвалюцыйным хламам. Выкладаючы літаратуру, вораг народу Ефімаў прапаведваў, што народ, як актыўна творчая сіла ў мастацтве, не адыгрывае ніякай ролі, што мастацтва ствараецца «асвечанымі», пануючымі класамі, што мастацка-літаратурная творчасць не звязана з палітычнай барацьбой класаў, яна апалітычна. Побач з гэтым адкраваеннем мацёры вораг Ефімаў выкладаў студэнтам і пошласць, заяўляючы, што «вялікі палец рукі—давіць, сціскае; указальны—указвае; сярэдні—шануе, ласкае; безыменны—скрабе і ашчупвае». Затаіўшы пагардлівыя адносіны да мас студэнтаў, як да «неацёсаных мужыкоў», якім толькі «на прызьбе сядзець», ён адначасова вербаваў сабе людзей для контррэвалюцыйнай работы. Свае кадры Ефімаў апрацоўваў рознымі метадамі. Па-школьніцку праводзіў залікі. Намечаным студэнтам ставіў заведама павышаныя адзнакі, рабіў іх «выдатнікамі» вучобы, ільсціў іх здольнасцям і ведам, з выглядам гуманнага прафесара-філантропа раздаваў грашовыя падачкі абавязкова з антысавецкай заўвагай, арганізоўваў падносенне букетаў студэнтамі самому сабе і дырэктару, каб стварыць аўтарытэт і замесці сляды шкодніцкай работы. Прапаведзь антысавецкіх ідэй у гісторыі і тэорыі літаратуры на грунце дзівоснага сплячення меншавіцтвуючага ідэалізма, контррэвалюцыйнага трацкізма, расізма і агіднай пошласці,—вось дзейнасць гэтага ворага народу.

Прафесар Магілеўскага пед'інстытута Тэпін па-шкодніцку будаваў свой курс лекцый рускай літаратуры. Перш за ўсё ён выкінуў з праграмы, як непатрэбныя, раздзелы «Дэмакратычная літаратура 60—70 гг.», «Паэзія дзекабрыстаў і паэты пушкінскай плеяды». Тэпін выбіраў для сваіх лекцый «нейтральныя тэмы». Аб рэвалюцыйных пісьменніках—Радзішчэве, Рылееве, Добралюбаве—толькі наспех паведамляў паасобныя факты. Гаворачы аб роданачальніку сацыялістычнай літаратуры Горкім, спыніўся толькі на яго біяграфіі, затое даў разгорнуты агляд літаратурнай дзейнасці Екацерыны II-й.

Каб перашкодзіць падрыхтоўцы высокакваліфікаваных савецкіх спецыялістаў, ворагі ад вучобы прыбягаюць да розных метадаў. Штучна ствараюць разрыў паміж тэорыяй і практыкай, для вытворчай практыкі выбіраюць заведама нягодныя аб'екты, уносяць блытаніну ў навуковыя планы і профілі факультэтаў, парушаюць паслядоўнасць ў праходжанні дысцыпліны, зніжаюць тэарэтычны ўзровень выкладання, імкнучыся ператварыць пед'інстытуты ў навучальныя ўстановы ніжэйшага тыпу, а універсітэты давесці да ўзроўню сярэдняй школы.

Стыпендыяльны фонд у варожых руках ператварыўся ў сродак, з дапамогай якога выклікалася азлабленне студэнцтва. Стыпендыі размяркоўваліся няправільна. Павышаныя стыпендыі выдаваліся адстаючым студэнтам, а выдатнікі вучобы пакідаліся без стыпендый.

Шпіён Дзякаў, прабраўшыся ў Наркомасветы, зацягваў прызначэнне выпускнікоў на работу. Каб выклікаць нездаволенасць студэнтаў-выпускнікоў, мужа і жонку пасылаў у розныя раёны, выдатнікаў вучобы прызначаў настаўнікамі, а слаба паспяваўшых дырэктарамі

і загадчыкамі школ. Такая практыка працягваецца і пры новым кіраўніцтве Наркомасветы. А гэта гаворыць аб тым, што з Наркомасветы і яго сістэмы яшчэ не выгнаны прытаіўшыяся ворагі народу.

З мэтай азлаблення студэнцтва і зрыву падрыхтоўкі кадраў ворагі знарок ствараюць дрэнныя бытавыя ўмовы, нацкоўваюць студэнтаў адзін на аднаго, развальваюць палітыка-выхаваўчую работу, распаўсюджваюць контррэвалюцыйныя анекдоты, культывуюць упадніцкія настроі і т. д.

Ствараючы выключную напружанасць з размяшчэннем студэнцтва у інтэрнатах, шкоднікі з Наркомасветы, Дзяржплана і Соўнаркома зрабілі усе, каб законсерваваць намечаныя да будаўніцтва аб'екты. З года ў год пераносіцца будаўніцтва навучальных карпусоў і інтэрнатаў для педагагічных вышэйшых навучальных устаноў. Гомельскі пед'інстытут ужо 3 гады закладвае фундамент навучальнага корпуса на 1000 чалавек, Менскі пед'інстытут некалькі год блытае з выбарам пляцоўкі пад інтэрнат. Універсітэт заселен рабочымі жыхарамі і з новага навучальнага года не меў магчымасці прыступіць да нармальнай работы. У такім становішчы знаходзяцца амаль усе вышэйшыя навучальныя установы.

* * *

Шкодніцкая работа ворагаў народу ў галіне кадраў дала сябе найбольш адчуць. Шляхам разбазарвання, выжывання добрых, кваліфікаваных работнікаў і навадненння інстытутаў класава-варожымі элементамі ім удалося стварыць напружанае становішча з кадрамі. Не гледзячы на тое, што за гады рэвалюцыі выраслі буйныя навуковыя работнікі, вылучыліся таленты з нізоў беларускага народу, усё ўзрастаючыя патрабаванні сацыялістычнай па зместу і нацыянальнай па форме культуры БССР з года ў год не [illegible] нашай сістэмай падрыхтоўкі кадраў [illegible]. Разумеючы выключнае значэнне гэтага ўчастка, шкоднікі працягнулі сюды свае подлыя лапы.

Ворагі народу, прабраўшыся ў кіраўніцтва Акадэміі Навук, дабіліся закрыцця аспірантуры пры Акадэміі. Падрыхтоўку аспірантаў распылілі па інстытутах, не забяспечаных высокакваліфікаванымі выкладчыкамі. Знізілі аспіранцкі мінімум да ўзроўню ВНУ. Чэсным, вытрыманым, адданым соцыялізму кадрам ствараліся розныя перашкоды ў абароне дысертацый і афармленні ў кандыдацкай ступені. Гэта ступень незаслужана прысвойвалася ворагам, чужакам, бяздарным падхалімам.

Наркомасветы і прэзідыум Акадэміі Навук да гэтага часу не праяўляюць неабходнай рашучасці і актыўнасці па ліквідацыі вынікаў шкодніцтва ў галіне аспірантуры. Яны абмяжаваліся пакуль што апублікаваннем аб'явы аб прыёме. Захоўваючы шкодніцкія традыцыі ворагаў, Наркомасветы ігнаруе таксама і пытанне падрыхтоўкі выкладчыкаў для настаўніцкіх інстытутаў праз кароткатэрміновую аспірантуру.

Ад лютаўскага Пленума ЦК ВКП(б) прайшоў не малы час, аднак пакуль што не відаць, каб прэзідыум Акадэміі Навук і Наркомасветы сур'ёзна ўзяліся за ліквідацыю вынікаў шкодніцтва, якое праводзілася доўгія гады.




Трацкісты—агенты японa-германа-польскага фашызма—імкнуліся

затрымаць развіццё савецкай навукі, адарваць яе ад практыкі соцыялістычнага будаўніцтва, падарваць яе аўтарытэт у вачах рабочых і калгаснікаў. Яны імкнуліся прапагандаваць праз навукова-даследчыя ўстановы контррэволюцыйныя тэорыі для падрыву нашай соцыялістычнай гаспадаркі. Яны імкнуліся, нарэшце, уграбіць вялікія сродкі, якія шчодра адпускаліся савецкім урадам на навуковую работу. Для гэтай мэты выдумляліся тэмы з разлікам найбольшай затраты сродкаў і атрыманнем найменшага эфекту. Нібыта з рэволюцыйным намерам, планы складаліся знарок праз меру шматтэмнымі. Ворагі добра ведалі аб іх зрыве, бо тэматыка не адпавядала наяўнасці навуковых работнікаў і іх кваліфікацыі па многіх навукова-даследчых інстытутах.

Навуковыя сілы і вялікія сродкі распыляліся на малазначныя тэмы, як, напрыклад, «Кармленне вутак варанай і сырой бульбай», «Метызацыя гусей», «Вывучэнне малочнасці авечак», «Вывучэнне трымання кролікаў у рознастайных умовах» і т. п.

Улюбёным метадам ворагаў ад навукі з'яўлялася канцэнтрацыя ўвагі і сродкаў на тэмах канстатуючага характару, мэтазгоднасць якіх даўно даказана. Так, па плану Навукова-даследчай станцыі жывелагадоўлі над тэмай «Метызацыя мясцовай буйнай рагатай жывелы» працавалі 3 навуковыя работнікі. На тэму затрачана звыш 27 тысяч рублёў і даказана даўно вядомая ісціна, што метызацыя— справа добрая і што яна дае дадатныя вынікі. Так здарылася і з іншымі работамі.

Адначасова ворагі робяць усё магчымае, каб праваліць карысныя, актуальныя тэмы. На гэтай-жа станцыі тэма «Барацьба з ялавасцю кароў, свінаматак і барацьба з адыходам парасят» правалена з затратай звыш 10 тысяч рублёў. Тэмы «Арганізацыя мерапрыемстваў па павышэнню выжарабкі і захаванню конскага пагалоўя», «Спосабы папярэджвання захворвання свіней круглымі чарвямі» і т. п. сістэматычна правальваюцца пасля таго, як на распрацоўку іх затрачваюцца вялікія сродкі. Калі шкоднікам не ўдаецца сарваць актуальную тэму, то яны гатовы выканаць яе, але з такім разлікам, каб яе нельга было скарыстаць практычна, ці каб яна дала адмоўны вынік. Так праводзілася тэма «Уплыў ацэдафілінавага малака на развіццё парасят». Ацэдафілінавае малако давалі парасятам з першых дзён нараджэння. У выніку такой «навуковай работы» пала 60 проц. падвопытных парасят. Гэта самая станцыя выкінула 70 тысяч рублёў на шкодніцкую работу аб коні. Хлебнікаў, якому тэма была даручана, каб заблытаць і сарваць племянную справу, прапанаваў у раёнах нераважнага распаўсюджання коней цяжкіх парод пакрываць конематак рысістымі вытворнікамі.

Гэтым далёка не вычэрпваюцца метады шкодніцтва ў навукова-даследчай рабоце. Яны вельмі рознастайны. Задача партыйных і непартыйных большэвікоў, якія працуюць на навуковым фронце,— выкрываць розныя спосабы і метады шкодніцкай работы шпіёнаў замежных разведак і здраднікаў соцыялістычнай радзімы і арганізаваць рашучую, бязлітасную выкарчоўку іх з нашых савецкіх навуковых устаноў.

Пара ўжо падвесці вынікі барацьбы па ліквідацыі шкодніцтва на ідэалагічным фронце і прыглядзецца да кіраўнікоў навуковых і навучальных устаноў іменна пад гэтым кутом погляду. Чым тлумачыцца злачынная маруднасць у выкананні гэтай першаступеннай важнасці работы? Калі кіраўнікі не бачаць шкодніцтва, не аргані-

зуюць рашучай барацьбы па ліквідацыі яго вынікаў, не працуюць над вырошчваннем і вылучэннем маладых, адданых справе Леніна—Сталіна бальшэвіцкіх кадраў, яны не павінны быць кіраўнікамі, як пасобнікі шкодніцкай работы. Выкрыццё ворагаў, ліквідацыя вынікаў шкодніцтва і вылучэнне маладых, здольных, палітычна вытрыманых кадраў, павінна легчы ў аснову работы партыйных арганізацый, кіраўніцтва навучальных і навуковых устаноў, Акадэміі Навук і Наркомасветы.

Хіба выпадкова, што Наркомасветы і яго кіраўнікі яшчэ не правялі ні аднаго колькі-небудзь грунтоўнага мерапрыемства для ліквідацыі вынікаў шкодніцтва. Набор у педагагічныя ВНУ ганебна зрываецца. Набор у аспірантуру таксама сарваны. У аспірантуру інстытута па 40 месц пададзены 2 заявы. Аб арганізацыі кароткатэрміновай аспірантуры, аб чым ёсць адпаведнае рашэнне, Наркомасветы і не думае, тым часам як падбор аспірантаў у гэтым годзе з'яўляецца рашаючым для нармальнай работы ВНУ у наступныя гады. Планамі, праграмамі па многіх дысцыплінах да гэтага часу не забяспечаны яшчэ ні ВНУ, ні рабфакі. Выданне падручнікаў, размеркаванне выкладчыкаў застаецца невырашальнай для Наркомасветы праблемай. Усе гэта не трывожыць кіраўніцтва Наркомасветы, яго пасіўнасць і нездольнасць больш чым падазроны.

Цяжка прыдумаць найбольш беззадказнае кіраўніцтва ВНУ і навукова-даследчымі інстытутамі, як гэта мае месца ў Наркомасветы. Аддзел кадраў узначальваецца зусім неадпавядаючым свайму прызначэнню Клячкіным. Наркоммясцпром не ведае і ведаць не хоча, што робіцца ў падведамсцевых яму інстытутах. Хутка ужо два гады, як інстытуты прамысловасці і харчовай прамысловасці без дырэктароў. А ў палітэхнічным інстытуце сядзіць чалавек, само прабыванне якога на гэтай пасадзе ёсць шкодніцтва, бо ён аслабляе студэнцкія масы.

Як-жа ў святле ўсіх гэтых спраў выглядае аддзел школ і навукі ЦК КП(б)Б? Трэба прама сказаць, што ён не на вышыні свайго становішча. Праўда, у выкрыцці ворагаў і шкодніцтва ў інстытутах і школах ён можа падвесці сякі-такі баланс. Аднак у арганізацыі барацьбы па ліквідацыі вынікаў шкодніцтва і вылучэнню маладых, растучых, палітычна вытрыманых кадраў работнікі аддзела аказаліся проста бездапаможнымі. Аддзел школ і навукі ЦК КП(б)Б пакуль яшчэ не ўзначаліў палітычную барацьбу на ідэалагічным фронце, не прыняў рашучых мер для мабілізацыі партыйных арганізацый на ўздым палітычнай работы ў ВНУ і навукова-даследчых установах.

Разгортванне бальшэвіцкай крытыкі і самакрытыкі, ускрыццё дапушчаных у навуковых працах нашых людзей памылак — першая умова развіцця сапраўднай навукі, магутны рычаг прагрэсу ў навуковай творчасці. Перад бальшэвікамі навуковага фронта БССР, партыйнымі і непартыйнымі, стаіць задача выключнай важнасці. Ім трэба выкрыць да канца усю контррэвалюцыйную работу ворагаў народу, крытычна пераглядзець усю выпушчаную за мінулыя гады навуковую прадукцыю, выкінуць контррэвалюцыйны фашысцкі хлам, падняць якасць нашай навуковай прадукцыі як у тэарэтычным, так і прынцыпова-практычным сэнсе.

Партыя і ўрад, якія не шкадуюць сродкаў на арганізацыю навуковай работы, якія з выключнай увагай адносяцца да падрыхтоўкі

кадраў, управе патрабаваць ад навуковых работнікаў сапраўднай барацьбы за ліквідацыю вынікаў шкодніцтва, сапраўднай перабудовы работы, максімальнай мабілізацыі сіл на стварэнне эфектыўнай навуковай прадукцыі ў дапамогу соцыялістычнаму будаўніцтву.

Ачысціць свае рады ад шпіёнаў, дыверсантаў, ад агентаў японагермана-польскага фашызма—гэтых варвараў і бандытаў з вялікай дарогі—свяшчэнны доўг партыйных і непартыйных большэвікоў навуковага фронта, навучальных устаноў і Наркомасветы.

Неабходна працаваць так, як гэтаму вучыць нас вялікая партыя большэвікоў, найвялікшы геній чалавецтва—Іосіф Вісарыенавіч Сталін.

Грознер

# Шкодніцкая дзейнасць ворагаў народу ў сістэме Белдзяржторфа

Праверкай устаноўлена, што на працягу апошніх год Белдзяржторф сістэматычна не выконвае сваю праграму. Кіраўнікі Белдзяржторфа тлумачаць гэта нерэальнасцю даведзенага дзяржаўнага плана здабычы торфу. Такая апартуністычная тэорыя не магла не адазвацца на практычнай дзейнасці Белдзяржторфа. У 1936 годзе на заводзе імя Гея была ўстаноўлена норма ў 44 тысячы штук машынафармовачнага торфу на змену, а ў 1937 годзе запланавана 39,5 тысяч штук торфу. Рэзкае зніжэнне норм выпрацоўкі пры вялікім леташнім воныце перавыкананне норм на самым заводзе імя Гея выцякае з апартуністычнай лініі Белдзяржторфа. Устаноўлена, што Белдзяржторф даводзіў да торфзаводаў шкодніцкія, заніжаныя планы. Пры падтрыманні ворагаў народу з Дзяржплана і СНК БССР ворагам, якія прабраліся ў кіраўніцтва Белдзяржторфа, гэта ўдавалася.

Возьмем прыклады: Завод «Чырвоны сцяг» атрымаў заданне здабыць 40.000 тон машынафармовачным спосабам і 20.000 тон гідраэлеватарным, а ўсяго 68.400 тон на 12 агрэгатаў. Фактычна завод выканаў план здабычы 67.800 тон паветрана-сухога торфу, працуючы толькі на 8 агрэгатах. Наўмыснае зніжэнне каэфіцыента скарыстання агрэгатаў, арыентацыя на двухзменную работу, што выклікае рост капіталаўкладанняў, павелічэнне колькасці лакамабіляў і гарнітур да іх з востра дэфіцытнага метала—гэтыя тэндэнцыі наглядаюцца на радзе торфазаводаў.

Кіраўнікі Белторфа сабатавалі ўказанні партыі аб неабходнасці механізацыі найбольш працаёмкіх работ па здабычы торфу. Найбольш эканомны гідраэлеватарны спосаб здабычы з года ў год ідзе на зніжэнне. Для машынафармовачнага спосабу здабычы патрабуецца 32 чал. на змену, а для гідраэлеватарнага—толькі 5 тарфяніка ў на адну машыну. Вытворчасць прадукцыі пры гэтым аднолькавая. Аднак развіццё гідраэлеватарнага спосабу здабычы торфу ў БССР увесь час тармазілася. Заводу «Чырвоны сцяг» у 1935 годзе даведзен быў план у 28.000 тон, у 1936 г.—18.000, ў 1937 г.—15.600. Белдзяржторф меркаваў рэканструяваць завод «Чырвоны сцяг» і заказаў Ленпраектторгу праектныя работы, якія абыйшліся ў 250 тысяч рублёў. Аднак праект ляжыць замарожаным да апошняга часу, бо аказалася, што для рэканструкцыі гэтага завода няма энергетычнай базы.

Тэхнічнае снабжэнне не забяспечвае нармальнай работы заводаў. Няма запасных частак. Дрэнная якасць рамонту выклікае частыя

прастоі і аварыі машын, зніжаецца каэфіцыент скарыстання агрэгатаў. На Асінторфе рабочыя носяць на сабе за 6—7 кілометраў цяжкія дэталі да аварыйнай машыны, на што трацицца шмат карыснага часу.

Лакамабілі няправільна размяркоўваюцца па заводах. Найбольш магутныя машыны пасылаюцца на заводы, дзе патрэбна малая магутнасць. Так, торфзавод «Свабода», якому патрэбна была маласільная машына, атрымаў лакамабіль вялікай магутнасці, завод «Чырвоны сцяг» для гідраэлеватарнага спосабу здабычы атрымаў лакамабіль толькі ў 47 конскіх сіл. У выніку машына на заводзе «Чырвоны сцяг» працуе з перагрузкай на 20—25 %, што выводзіць яе дачасна са строю і зніжае вытворчасць агрэгатаў, а на заводзе «Свабода» лакамабіль працуе з недагрузкай.

Шкодніцкае планаванне прывяло да таго, што торфзавод імя Гея атрымаў матавозы без рэек. Рэйкі атрымалі іншыя заводы, якія не маюць матавозаў. У выніку матавоз «Комсамолец» прастаяў 9 месяцаў, а 3 матавозы коштам у 12.000 руб. кожны стаяць з красавіка 1937 г. Многія прадпрыемствы к пачатку сезона аказаліся без рамнёй ланцугоў, тросаў, спецвопраткі і іншага тэхнічнага абсталявання. Жылплошча для рабочых за апошнія гады амаль не пашыралася. Ніхто фактычна не цікавіўся бытавымі ўмовамі рабочых, не клапаціўся аб жывым чалавеку.

Каб скрыць сваю злачынную дзейнасць шкоднікі заняліся очкаўцірацельствам. Справаздачныя весткі, якія Белдзяржторф прадстаўляў у дзяржаўныя і партыйныя арганізацыі за апошнія чатыры гады, з'яўляюцца прамым абманам партыі і ўрада. У 1936 годзе, напрыклад, кіраўнікі Белдзяржторфа рапартавалі аб 100% выкананні плана здабычы торфу, а фактычна выканалі план на 80%. Такіх выпадкаў антыдзяржаўнай практыкі і простага абману можна прывесці вельмі многа.

Многія заводы пакідаюць здабыты торф на полі, дзе ён гніе. Адзін толькі Асінторф не ўбраў звыш 50 тысяч тон торфу, які фактычна прапаў. На заводзе імя Гея нехапае 11.000 тон торфу на суму 95 тысяч рублёў. Гэтыя злачынствы праходзяць беспакарана. Шухману—галоўнаму інжынеру завода імя Гея—пасля выяўлення ўсіх гэтых шкодніцкіх спраў выдаюць прэмію. Усяго шкоднікі атрымалі прэмій на 6.400 рублёў. Страты торфу на ўсіх заводах дасягаюць соцень тысяч рублёў, але нікога у Белдзяржторфе яны не хвалявалі і з года ў год спісваліся.

Шкодніцкае планаванне здабычы торфу ў БССР прывяло да таго, што энергогігант БССР Белдрэс вымушан завозіць торф з Украіны, тым часам як Беларусь лічыцца тарфяным Донбасам. У 1936-1937 гг. Асінторф не развіваўся ў адпаведнасці з ростам магутнасці электракамбіната. У гэтым годзе Асінторф выконвае праграму здабычы ў аб'ёме 300 тысяч тон, тады як Белдрэсу патрэбна 400 тысяч тон, а ў далейшым патрэба ўзрасце да 800 тысяч тон. Нягледзячы на гэта, Белдзяржторф ніякіх рашучых мер па асваенню новых участкаў не прымае. Ужо зараз ёсць пагроза, што Белдрэс застанецца на галодным паліўным пайку. Асінторф мае ўсе магчымасці, пры ўмове неадкладнай належнай падрыхтоўкі балота, асвоіць у наступным годзе праграму здабычы 500 тысяч тон торфу. Але нават і гэта праграма можа задаволіць Белдрэс толькі на 1938 год. У наступныя гады, пры пуску трэцяй чаргі, Белдрэсу патрэбна будзе 800 тысяч

тон торфу. Паўстае пытанне аб неабходнасці рэканструкцыі торфзавода, каб ён мог поўнасцю забяспечыць Белдрэс неабходным палівам.

У сучасны момант шкодніцтва на Асінторфе выражаецца ў тым, што балота на ўчастку разліву гідраторфмасы загадзя не асушана. Разлітыя 10 тысяч тон торфу не сохнуць і наўрад ці справа абыйдзецца без вялікіх страт. Кіраўнікі завода самі прызналі, што страты дойдуць да 40%. З-за вялікай вільготнасці торфяная маса на непадрыхтаваных палях ўсасваецца ў глебу. У дадатак да гэтага водаадводныя канавы не ачышчаюцца. Вада ў іх стаіць на ўзроўні балота, і рассцелены на палях торф гіне. Кіраўнікі Белдзяржторфа ведаюць аб гэтым, але ніякіх мер не прымаюць.

Аварыі і прастоі механізмаў на некаторых заводах (імя Гея, Асінторф і інш.) даходзяць да 20 і больш процантаў, але рэгіструюцца, як звычайныя выпадкі.

Уся дзейнасць Белдзяржторфа з'яўляецца шкодніцкай практыкай, накіраванай на зрыў работы прамысловасці. Тут ворагі народу культывавалі сямейнасць, падхалімства, заціск крытыкі і самакрытыкі.

* * *

Антыдзяржаўная, шкодніцкая дзейнасць у сістэме Белдзяржторфа не выпадкова. Яна з'яўляецца вынікам засмечанасці апарата класава-варожымі элементамі, якія займаюць кіруючыя пасты.

Прывядзем няпоўны пералік «кадраў», якім кіраўніцтва Белдзяржторфа даверыла адказныя ўчасткі як у самым апараце, так і на торфзаводах.

Загадчыкам вытворча-тэхнічнага аддзела трэста працуе былы афіцэр Мемавідаў, які праваліў работу на Асінторфе. Механік трэста Сінейка, дырэктар торфзавода «Дукора» Дворкін выключаны з партыі, як падхалімы з цёмным мінулым. Дырэктар торфзавода «Чырвоны сцяг» зараз выкрыт як вораг народу. Галоўны механік завода «Чырвоны сцяг» аказаўся самазванцам, ярым ворагам народу і зараз асуджаны за падрыўную контррэволюцыйную работу.

На Асінторфе начальнікам змены працуе нейкі Васілеўскі, выключаны з партыі як трацкіст. Начальнікам пажарнага сектара з'яўляецца выключаны з партыі трацкіст Вінер, тэхнікам-будаўніком—трацкіст Герайсмес. Начальнікам электрацэха «працаваў» былы буйны кулак Рыбакоў, які «кіраваў» работай так, каб былі людскія ахвяры. Пасля забойства трох рабочых ні заводакіраўніцтва, ні партарганізацыя не толькі не сарвалі маску з гэтага ворага, а перавялі яго на месца экспедытара.

На тым-жа Асінторфе загадчыкам цэнтральнага склада працуе сын кулака Ганцкі; галоўным бухгалтарам 3 ўчастка—нейкі Намезчанка, раней асуджаны на 10 год; начальнікам пагрузкі трацкіст Беразоўскі; адказным выканаўцам па кадрах нейкі Новікаў, які за контррэволюцыйную работу быў прысуджан да расстрэлу, але атрымаў замену—10 год зняволення. Акрамя пералічаных, на Асінторфе працуюць каля 69 чалавек, якія ў свой час за контррэволюцыйную работу былі асуджаны совецкім судом на тэрмін ад 3 да 10 год зняволення.

Былы дырэктар Белдзяржторфа шчыра абараняў класава-варожыя

элементы, падхалімаў, шкоднікаў, якімі акружыў сябе. Каб лакінуць у сваей сістэме жонку расстрэлянага белагвардзейца Камлюк, якой не выдалі у Менску пашпарт, дырэктар накіраваў яе на торфзавод імя Гея. Тэксама дапамог ён і былому кулаку Хлестунову, які збег з Украіны ў БССР. Хлестуноў быў прызначан на торфзавод імя Гея галоўным механікам. Карыстаючыся палітычнай слепатой партыйнай арганізацыі і заводакіраўніцтва Хлестуноў вёў шкодніцкую работу па развалу працоўнай дысцыпліны, арганізоўваў п'янкі і т. п. Калі далейшае прабыванне гэтага кулака на заводзе імя Гея стала немагчымым, Белдзяржторф перакінуў яго на другі торфзавод.

Замест барацьбы з ворагамі народу і ачысткі трэста і торфзаводаў ад класава-варожых элементаў кіраўніцтва Белдзяржторфа насаджала на адказныя пасты трацкістаў, кулакоў і розных прахадзімцаў, якія тварылі сваю контррэвалюцыйную шкодніцкую работу, зрываючы планы здабычы торфу.

Паступалі шматлікія сігналы аб шкодніцкай контррэвалюцыйнай дзейнасці значнай часткі вышэйадзначаных асоб, аднак кіраўнікі Белдзяржторфа не лічыліся з думкаю партыйных арганізацый і бралі яўных ворагаў народу пад сваю апеку. Карыстаючыся гэтым, ворагі беспакарана вялі падрыўную работу.

Вышэйпрыведзеныя факты гавораць аб тым, што партыйная арганізацыя Белдзяржторфа, яе былы парторг Жук і цяперашні Саўковіч, бяздзейнічаюць у справе выкрыцця і выкарчоўкі ворагаў народу, якія засталіся ў Белдзяржторфе і яго сістэме. Як відаць, партарганізацыі трэста Белдзяржторфа, Асінторфа і іншых торфзаводаў не зрабілі для сябе неабходных палітычных вывадаў з рашэнняў лютаўскага Пленума ЦК ВКП(б) і указанняў таварыша Сталіна і па-ранейшаму праяўляюць бесклапотнасць, дапускаюць злачынную палітычную слепату.

Промаддзел ЦК КП(б)Б, Варашылаўскі Горрайком і адпаведныя сельскія райкомы партыі павінны неадкладна заняцца сур'езнай праверкай работы Белдзяржторфа і яго сістэмы, каб ачысціць іх ад класавых ворагаў і шкодніцкіх элементаў.

С. Г.

# Злачынная бяздзейнасць палітаддзела і партарганізацый воднага транспарту

Партыйныя арганізацыі і палітаддзел воднага транспарту абавязаны былі зрабіць сур'ёзныя палітычныя вывады з фактаў шкодніцтва, якое праводзілася выкрытымі ворагамі народу. Яны павінны былі неадкладна мабілізаваць усіх камуністаў і беспартыйныя масы на хутчэйшую ліквідацыю вынікаў шкодніцтва і павышэнне рэвалюцыйнай пільнасці, каб выкарчаваць усіх паследышаў Галаванава і іншых прытаіўшыхся класава-варожых і шкодніцкіх элементаў. Не славеснай балбатнёй і рэзалюцыямі, а практычнымі канкрэтнымі мерамі вывесці водны транспарт на перадавыя пазіцыі народнай гаспадаркі, забяспечыць план груза-пасажырскіх перавозак, палепшыць водныя шляхі рэспублікі.

Партыйныя арганізацыі і палітаддзел воднага транспарту, відаць, не ўяснілі сабе рашэнняў лютаўскага Пленума ЦК ВКП(б) і ўказанняў таварыша Сталіна. Яны вынеслі рад пастаноў і рэзалюцый і палічылі, што справа ліквідацыі вынікаў шкодніцтва пойдзе самацёкам. Аб гэтым гаворыць уся практыка іх работы. Так зразумеў свае задачы і новы кіраўнік воднага транспарту БССР Обухаў.

Пасля выкрыцця шкодніцкай работы ворагаў народу Галаванава, Яркіна і інш. ні новае кіраўніцтва, ні палітаддзел і партыйныя арганізацыі не праверылі складзеныя шкоднікамі планы і не перабудавалі іх у адпаведнасці з задачамі, ускладзенымі на водны транспарт рэспублікі. Калі-б яны пацікавіліся гэтай справай, то адразу ўбачылі-б, што план на 1937 год складзен па-шкодніцку, з заніжанымі тэхнічна-эканамічнымі паказчыкамі. Так, пры росце магутнасці рачнога флота рэспублікі супроць 1936 г. на 23 проц. па пасажырскіх і на 50,8 проц. па буксірных перавозках рост грузаперавозак запланаваны толькі на 6 проц. Гэтыя лічбы гавораць аб яўным шкодніцтве, накіраваным на невыкарыстанне тэхнічнай магутнасці, на дэфіцытнасць работы воднага транспарту. Адначасова ў план уключана патрабаванне на дзяржаўную датацыю у 10.311 тыс. рублёў. Новае кіраўніцтва не толькі не прыняла ніякіх мер для выпраўлення шкодніцкі складзенага плана, а працягвае па гэтаму плану працаваць і кіраваць работай воднага транспарту. Мала таго, нават гэты заніжаны план перавозак не выконваецца. Так, у самы выгадны перыяд поўнаводдзя рэк красавік-май—план быў выкананы толькі на 80,2 проц.

Частыя аварыі, прастоі, якія па паравому флоту дасягаюць больш 60 проц., нядобраякасны рамонт суднаў, што выклікае неабходнасць паўторнага рамонту, адсутнасць неабходных запасных частак, што прыводзіць да прастою рамонтных заводаў усе гэта кіраўніцтва, палітаддзел і партыйныя арганізацыі лічаць нармальнаю з'явай

і працягваюць шкодніцкія традыцыі, замест барацьбы за хутчэйшую ліквідацыю вынікаў шкодніцтва.

На Гомельскім суднарамонтным заводзе выключна дрэнна пастаўлена партыйна-масавая і палітвыхаваўчая работа, што прывяло да падзення працоўнай дысцыпліны, праяў рвацтва і т. п. Дрэнная арганізацыя рабочага месца і іншыя непаладкі адбіраюць у рабочых шмат часу на пошукі неабходных дэталяў, інструментаў. Завод не выконвае ў вызначаны тэрмін свайго плана, дае рамонт нізкай якасці, а ўрэшце кацеры і іншыя судны прастойваюць доўгі час на паўторным рамонце. Так кацер «Азёрны» на паўторным рамонце прастаяў 59 дзён

Партарганізацыя завода налічвае 23 чалавекі, з якіх 18 працуюць непасрэдна на вытворчасці. На заводзе 71 стаханавец і 69 ударнікаў. Партыйная арганізацыя, абапіраючыся на гэтых актывістаў і энтузіястаў вытворчасці, мела поўную магчымасць мабілізаваць увесь рабочы калектыў на барацьбу за хутчэйшую ліквідацыю шкодніцтва, на павышэнне працоўнай дысцыпліны. Аднак яна не заняла кіруючую ролю ў арганізацыі мас, яна не здолела нават добра арганізаваць вывучэнне рашэнняў лютаўскага Пленума ЦК ВКП(б), прамовы і заключнага слова таварыша Сталіна. На заводзе есць 7 спачуваючых, але і з імі партарганізацыя не працуе і нават не наладзіла палітвучобы.

Палітаддзел Днепра-Дзвінскага басейна, замест таго каб дапамагчы партыйнай арганізацыі завода наладзіць партыйна-масавую работу, забраў сакратара камсамольскай арганізацыі завода тав. Колчына да сяе ў якасці інструктара. Тав. Колчын больш двух месяцаў раз'язджае па камандзіроўках палітаддзела і на завод не заглядае, што прывяло да заняпаду камсамольскай работы.

У дрэннай рабоце партарганізацыі суднарамонтнага завода вінават і Гомельскі райком партыі. Ведаючы аб усіх непаладках і недахопах у партыйна-палітычнай рабоце на заводзе, райком не аказаў партарганізацыі неабходнай дапамогі.

* *

Партарганізацыя Гомельскага рачнога порта таксама не перабудавала сваю работу ў адпаведнасці з рашэннямі лютаўскага Пленума ЦК ВКП(б) і ўказаннямі таварыша Сталіна. Яна не завастрыла свайй увагі на разгортванні большэвіцкай крытыкі і самакрытыкі, вывучэнні і вылучэнні новых кадраў, ліквідацыі вынікаў шкодніцтва, павышэнні рэвалюцыйнай пільнасці.

Адсутнасць разгорнутай крытыкі і самакрытыкі ў самой партарганізацыі сказваецца і на рабоце усяго калектыва рабочых і служачых порта. У выступленнях членаў партыі і іншых работнікаў адчуваецца боязнь крытыкаваць недахопы ў рабоце начальніка порта Нехлюдава. Партыйная арганізацыя не ўзначаліла актыўнасць рабочых і служачых, не мабілізавала іх на барацьбу з абураючымі фактамі шкодніцкай дзейнасці прытаіўшыхся ворагаў народу. Ні партыйная арганізацыя, ні кіраўніцтва портам не прынялі неабходных мер, каб выявіць і прыцягнуць да адказнасці вінаўнікаў патаплення 12 мяшкоў цукру, крупы, цэменту і іншых каштоўных грузаў.

Да апошняга часу існуе ўраўнілаўка ў сістэме аплаты працы грузчыкаў. Выпрацоўка брыгады дзеліцца пароўну паміж усімі рабочымі, незалежна ад колькасці і якасці работы кожнага Такая сістэма не

стымулюе разгортванне стаханаўскага руху, а стварае абязлічку, развівае лодырніцтва, падрывае працоўную дысцыпліну. У парту налічваецца больш 200 грузчыкаў. Аднак ніхто не клапоціцца аб палепшанні іх добрабыту, аб харчаванні. Партарганізацыя амаль ніякай палітмасавай работы сярод іх не праводзіць. У выніку цякучасць сярод грузчыкаў даходзіць у сярэднім да 20 чалавек у дзень, што **зрывае работу порта, выклікае прастоі параходаў.**

Выключна дрэнна пастаўлена і ўнутрыпартыйная работа. Партыйныя сходы праводзяцца без сур'ёзнай падрыхтоўкі. Парторг, як правіла, не прыцягвае да гэтай работы камуністаў і праводзіць яе адзін, адарвана ад партыйных мас. На партсходах парторг не робіць справаздачы аб выкананні рашэнняў папярэдніх сходаў, што **прыводзіць да безадказнасці за гэту справу.**

Усе адзначаныя абураючыя факты застаюцца незаўважанымі гаркомам партыі, амаль пад бокам якога знаходзіцца Гомельскі **рачны порт.**

* * *

**У выключна дрэннай рабоце воднага транспарту БССР** вінаваты і палітаддзел і яго кіраўнікі. Яны рэдкія госці на сходах рабочых, у партарганізацыі і кіраўніцтве Гомельскага рачнога порта, хоць да яго—рукой падаць. Не дзіўна, што яны не ведаюць сапраўднага становішча параходства і займаюцца кіраўніцтвам наогул, **адарвана ад канкрэтных задач рачнога транспарту.**

**Гомельскі рачны порт—адзін з важнейшых аб'ектаў воднага транспарту нашай рэспублікі—быў арэнай шкодніцкай дзейнасці Галаванава і** іншых ворагаў народу, якія імкнуліся сарваць будаўніцтва порта. Порт усё яшчэ не прыстасован да пагрузачна-разгрузачных работ. Калі з чыгункі прыбываюць вагоны для пагрузкі, то спыняецца пагрузка параходаў, бо немагчыма адначасова грузіць вагоны і параходы на адным і тым-жа непрыстасаваным участку. Тормаз гэты можна было б лёгка ліквідаваць, затраціўшы нязначныя сродкі. Але кіраўнік воднага транспарту і параходства Обухаў не звяртае ніякай увагі на тое, што зрываецца план пагрузкі параходаў і вагонаў, **зрываецца і план работы порта ў цэлым.**

Ні кіраўніцтва параходствам, ні кіраўніцтва портам, ні кіраўніцтва водным транспартам рэспублікі да гэтага часу не распрацавалі канкрэтных мер для ліквідацыі вынікаў шкодніцтва. Палітаддзел не мабілізаваў партыйныя арганізацыі і калектыў работнікаў воднага транспарту на павышэнне рэвалюцыйнай пільнасці, на хутчэйшую ліквідацыю вынікаў шкодніцтва, на паспяховае выкананне ўскладзеных **на водны транспарт рэспублікі задач.**

Начальнік Гомельскага порта Нехлюдаў, замест таго каб чула прыслухоўвацца і рэагаваць на сігналы мас, праяўляе бюракратызм, заціскае крытыку недахопаў сваёй работы, замазвае абураючыя факты злачынства. Такія адносіны Нехлюдава да даручанай яму работы выклікаюць сумненне ў яго партыйнасці. Партарганізацыя порта і Гомельскі гарком партыі павінны сур'ёзна праверыць палітычны твар Нехлюдава. Неабходна выкарчаваць усіх прытаіўшыхся ворагаў народу, якія зрываюць нармальную работу воднага транспарту, рашуча ачысціць яго ад паследышаў шкодніка Галаванава і іншых фашысцка-шкодніцкіх элементаў і мабілізаваць усіх воднікаў

на барацьбу за ператварэнне воднага транспарту ў адну з перадавых галін народнай гаспадаркі рэспублікі.

Прамаддзел ЦК КП(б)Б, гаркомы і райкомы партыі павінны аказаць сур'ёзную дапамогу воднаму транспарту рэспублікі ў перабудове і арганізацыі ўнутрыпартыйнай і палітмасавай работы і сур'ёзна праверыць людзей, якім даверана кіраваць гэтым адказным участкам народнай гаспадаркі, і ў першую чаргу—палітаддзел. Выяўленыя праверкай факты патурання ворагам народу з боку работнікаў і кіраўнікоў палітаддзела, аб чым пісалася ў газеце «Рабочий» ад 2 чэрвеня г.г., гавораць аб тым, што партыйнасць некаторых кіраўнікоў палітаддзела выклікае сумненне. Той факт, што начальнік палітаддзела Сурагін узяў пад сваю абарону ярых ворагаў народу—трацкістаў Огурока, Яркіна і іншых, сведчыць аб жаданні дэмабілізаваць сваімі дзеяннямі партыйныя масы і работнікаў воднага транспарту рэспублікі.

Работай палітаддзела, партыйных арганізацый і цалкам воднага транспарту абавязаны неадкладна заняцца Прамаддзел ЦК КП(б)Б, адпаведныя гаркомы і райкомы партыі, каб у найкарацейшы тэрмін ліквідаваць вынікі шкодніцтва, перабудаваць партыйна-палітычную работу палітаддзела і партыйных арганізацый, бо ў далейшым нецярпіма тое становішча, у якім знаходзіцца зараз водны транспарт нашай рэспублікі.

Б. Зельцэр

# Небольшэвіцкія адносіны да прыёму ў партыю

Прыем у партыю новых членаў—адна з адказнейшых задач, адно з асноўных пытанняў жыцця і работы партыі.

Пасля Пастановы ЦК ВКП(б) (1936 г.) аб аднаўленні прыему новых членаў партыі прайшло ўжо больш 10 месяцаў. Аднак партарганізацыі Сталінскага раёна гор. Менска прыемам у партыю не займаюцца. Райком не зрабіў неабходных вывадаў з дырэктывы партыі аб аднаўленні прыему. За гэты час па раёну прынята ў кандыдаты ўсяго 2 чалавекі, пераведзена з кандыдатаў у члены партыі 10 чалавек і не прынята ў партыю ні аднаго комсамольца. Пярвічныя партарганізацыі раёна з пададзеных 33 заяў аб прыеме ў кандыдаты партыі разглядзелі толькі 2, а з 73 заяў аб пераводзе ў члены партыі —толькі 11.

У Сталінскім райкоме ЛКСМБ ужо больш шасці месяцаў ляжаць 2 заявы комсамольцаў з завода імя Варашылава, 4 заявы з фабрыкі «Комунарка» аб дачы рэкамендацый для ўступлення у партыю, аднак райком комсамола ўсё яшчэ не «паспеў» іх разгледзець.

У ліпені бюро райкома КП(б)Б заслухала справаздачы пярвічных арганізацый завода імя Варашылава, «Чырвоная зара», «Большавік» аб рабоце са спачуваючымі, кандыдатамі партыі і беспартыйным актывам, аб рэалізацыі пастановы ЦК ВКП(б) аб аднаўленні прыему у рады партыі. Як высвеілася, парткомы гэтых прадпрыемстваў і сам райком фактычна ігнаравалі дырэктывы аб прыёме ў партыю.

Работа са спачуваючымі ў пярвічных партарганізацыях Сталінскага раена пастаўлена з рук вон дрэнна. На заводзе імя Варашылава яна зусім закінута. Партыйны камітэт супакоіўся на тым, што спачуваючыя лічацца ў палітгуртку. Але гурток гэты замест 6 раз збіраўся 3 разы ў месяц, а за апошнія два месяцы заняткаў зусім не было. У гуртку за год змянілася больш 5 кіраўнікоў.

Спачуваючы тав. Стрэльцоў говорыць: «Нам хочацца вучыцца, але ці вінаваты мы ў тым, што кіраўніку некалі, што ён зрывае заняткі нашага гуртка». Спачуваючыя Гучок, Белы і іншыя таварышы ніколі не чыталі мастацкай літаратуры, не выпісваюць газет. Сакратар і члены парткома ні разу не пагутарылі са спачуваючымі аб тым, як трэба рыхтавацца да ўступлення ў партыю. За ўвесь час ні адзін спачуваючы не атрымаў партдаручэння. У гэтым годзе партком не знайшоў часу склікаць нараду з беспартыйным актывам, ударнікамі, стаханаўцамі. Лепшыя людзі завода не ўцягнуты ў гурткі спачуваючых, у актыўную грамадскую работу. Заводскі камітэт, якому пе-

радаверана ўся работа з беспартыйным актывам, не толькі з ім не працуе, але нават не вядзе ўліку.

Больш чатырох месяцаў не склікаўся заводскі актыў для абмеркавання вынікаў лютаўска-сакавіцкага Пленума ЦК ВКП(б). Старшыня заўкома тав. Дубравіцкі заяўляе, што ён вельмі заняты выбарамі профорганаў і перабудовай прафсаюзнай работы.

Аб адрыве заўкома і парткома ад беспартыйнага актыва, аб няведанні людзей сведчыць такі выпадак. У парадку падрыхтоўкі да выбараў прафсаюзных органаў быў склікан пленум заводскага камітэта. Старшыня заўкома вельмі хваляваўся. Ён некалькі раз званіў у цэх і прасіў, каб на пленум прышоў член заўкома слесар Багданаў Сямен Данілавіч. Але дарэмны аказаліся пошукі. Багданава знайсці нідзе не ўдалося, бо мінула ўжо 5 месяцаў, як ён звольніўся з завода.

За апошнія паўтара гады зусім спыніўся рост групы спачуваючых. Да гэтага часу ні адзін з 12 спачуваючых не падаў заявы аб уступленні ў партыю.

У сувязі з уведзеннем новай Сталінскай Канстытуцыі кожная партыйная арганізацыя павінна яшчэ больш пашыраць і ўмацоўваць свае сувязі з беспартыйным актывам, з шырокімі масамі працоўных, дапамагаць ім авалодваць бальшэвізмам, павышаць пільнасць, узбройваць супроць усялякіх прошукаў ворагаў народу, япона-германа-польскіх трацкісцкіх і правых бандытаў.

Кожная партыйная арганізацыя абавязана рашуча ўзмацніць работу са спачуваючымі, стварыць ім умовы для павышэння палітычнага і тэхнічнага узроўню, сістэматычна інфармаваць аб важнейшых падзеях за мяжой, аб рашэннях нашай партыі і ўрада.

Сапраўдная палітычная агітацыя сярод спачуваючых вядзецца не толькі шляхам залічэння іх у палітшколы і гурткі. У кожнага спачуваючага неабходна выхоўваць усведамленне адказнасці за выкананне даручэнняў і заданняў.

* * *

Пісьмо ЦК ВКП(б) аб аднаўленні прыему ў партыю застала некаторыя партарганізацыі зусім непадрыхтаванымі. Яны нечакана убачылі, што дрэнна ведаюць людзей, не праверылі іх асабістых якасцей. Кандыдаты партыі, якія па некалькі год працуюць на прадпрыемстве поплеч з партыйцамі, не могуць дабіцца ад іх рэкамендацый.

Бяда ў тым, што пасля праверкі і абмену партдакументаў, работа з кандыдатамі зусім заглохла.

Партком завода імя Варашылава пакінуў кандыдатаў на саміх сябе, не арганізаваў кантролю за выкананнем даручэнняў. Кандыдат партыі інжынер тав. Мінкоў нават забыўся аб тым, якое даручэнне павінен выканаць і нічога не зрабіў за чатыры месяцы.

На заводзе 26 кандыдатаў партыі, але толькі двое тры месяцы таму назад падалі заявы аб пераводзе у члены партыі. Аднак партком не разгледзеў і гэтых заяў да апошняга часу.

Партарганізацыя завода «Чырвоная зара» налічвае ў сябе 10 кандыдатаў. Большасць зусім не мае даручэнняў, нідзе не вучыцца, не чытае не толькі мастацкай літаратуры, але нават газет.

На заводзе «Большэвік» частка кандыдатаў партыі вучыцца ў стаханаўскай школе, у якой за апошнія паўтара гады адбылося ўсяго

5—6 заняткаў па бягучай палітыцы. Тт. Рагозін, Крэндзель, Дубровіч, Максімаў, Надточын і іншыя не чыталі яшчэ палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет СССР, не наведваюць палітгурткі. Тав. Рагозін з 52 заняткаў наведаў толькі 27, тав Азярыцкі з 40—толькі 22, тав. Крэндзель з 40 —толькі 25. Тав. Белан у мінулым годзе не вучылася, а селета з 15 заняткаў прапусціла ўжо 5. Тав. Максімаў у мінулым годзе наведаў заняткі вячэрняй партшколы толькі 2 разы, а сёлета нідзе не вучыцца. Партком бездапаможна разводзіць рукамі. Так пастаўлена работа з кандыдатамі партыі і на МГЭС-2, і на Мясакамбінаце, і ў радзе іншых пярвічных партарганізацый.

З абыякавымі адносінамі да выхавання кандыдатаў партыі далей мірыцца нельга. Доўг кожнай партарганізацыі, кожнага большэвіка - нястомна клапаціцца аб палітычным выхаванні кандыдатаў, усебакова правяраць іх на практычнай рабоце для выяўлення магчымасці пераводу ў члены партыі.

Многія таварышы налічваюць ужо па 5—7 год кандыдацкага стажу. Такіх кандыдатаў нельга, вядома, без разбору пераводзіць у члены партыі, памятаючы, што не ўсе яны могуць быць дастойны звання члена большэвіцкай партыі, што, не гледзячы на вялікі стаж, не ўсе палітычна даспелі, не ўсе здольны на справе змагацца за генеральную лінію партыі.

Ганаровае званне большэвіка атрымае толькі той, хто на справе даказаў адданасць партыі, гатоўнасць весці непрымірымую барацьбу за справу комунізма.

Усякаму самацёку трэба пакласці канец. У партыю можна прымаць толькі індывідуальна. Як зрэнку вока трэба берагчы партыю ад пранікнення ў яе рады ворагаў і выпадковых людзей. Кандыдацкі стаж -школа большэвіцкай загартоўкі, узбагачэння вопытам палітычнай барацьбы партыі. На практычнай творчай рабоце правяраюцца асабістыя якасці кожнага кандыдата партыі, яго рэволюцыйная зоркасць і пільнасць, навыкі большэвіцкай арганізаванасці і дысцыпліны.

Комсамол—невычэрпная крыніца папаўнення радоў нашай партыі. Самай ганаровай задачай партарганізацый і кожнага комуніста з'яўляецца ўцягненне лепшых комсамольцаў у рады ВКП(б).

Але пра гэты абавязак зусім забыліся на заводзе імя Варашылава. Партком і комсамольскі камітэт зусім закінулі выхаванне і падрыхтоўку комсамольцаў для перадачы ў партыю. Са 110 комсамольцаў толькі тт. Салавейчык і Эстэркін падалі заявы з просьбай рэкамендацыі. Аднак і гэтыя дзве заявы больш сямі месяцаў марынуюцца ў комсамольскім камітэце і райкоме партыі. Такую небольшэвіцкую практыку трэба неадкладна выкараніць.

Адно з важнейшых пытанняў, якое паўстае зараз перад кожным комуністам—гэта пытанне аб рэкамендацыях. Частка комуністаў вядзе яўна непартыйную лінію, адлыньваючы ад рэкамендацыі ў партыю лепшых, правераных людзей. «Як-бы чаго не выйшла»,—гавораць у такіх выпадках. Многія члены партыі баяцца ўзяць на сябе адказнасць, бо зараз патрабаванні вельмі строгія.

Такія выпадкі мелі месца на заводзе імя Варашылава, «Чырвоная зара» і інш. Гэта няправільная, шкодная лінія. Нельга ўхіляцца ад адказнасці за чалавека. Трэба дзесяць разоў яго праверыць, вывучыць як след, але не шукаць выхаду ў самастрахоўцы.

Сталінскі раиком партыі і пярвічныя арганізацыі павінны шырока растлумачыць комуністам іх ганаровую задачу—дапамагчы лепшым людзям нашых заводаў і фабрык уступіць у рады ВКП(б). Прыем у партыю павінен стаць адным з цэнтральных пытанняў работы ўсіх партыйных арганізацый.

Пярвічныя арганізацыі і райкомы партыі павінны памятаць, што няма больш ганаровай задачы, як з дня у дзень рыхтаваць новых байцоў для папаўнення радоў нашай вялікай комуністычнай партыі большэвікоў.

## У ДАПАМОГУ ПРАПАГАНДЫСТУ

*Аддзел партыйнай прапаганды і агітацыі ЦК ВКП(б)*

# Праграма па гісторыі ВКП(б) для партыйных гурткоў

## Тэма І

**Барацьба за стварэнне марксісцкай, соцыял-дэмакратычнай партыі ў Расіі.**

*(Ад утварэння Плеханаўскай „Групы вызвалення працы" —1883 г. да з'яўлення першых нумароў „Искры"—1900—1901 гг.)*

Эканамічны лад дарэвалюцыйнай Расіі. Адсталасць капіталістычнага развіцця Расіі ў параўнанні з перадавымі капіталістычнымі краінамі Еўропы і Амерыкі. Наяўнасць у дарэвалюцыйнай Расіі як новых, сучасных з пункту погляду капіталізма, класаў, так і старых, дакапіталістычных класаў. Памешчыцкае землеўладанне і астаткі прыгонніцтва на вёсцы. Дробнабуржуазны характар краіны, перавага на вёсцы дробнай сялянскай гаспадаркі.

Развіццё ў 80—90-х гадах капіталізма ў Расіі. Уступленне сусветнага капіталізма ў імперыялістычную стадыю. Прыток у Расію замежнага капітала, будаўніцтва буйнейшых капіталістычных прадпрыемстваў. Расія вузлавы пункт супярэчнасцей імперыялізма. Перамяшчэнне цэнтра сусветнага рэвалюцыйнага руху ў Расію. Рост рабочага класа, яго канцэнтрацыя, разнароднасць яго складу. Расслаенне сялянства, выдзяленне беднаты і кулацтва на вёсцы.

Палітычны лад царскай Расіі. Царскае самаўладства — дыктатура прыгоннікаў-памешчыкаў — злейшы вораг народу. Палітычнае бяспраўе, варварская эксплаатацыя рабочых і сялян у царскай Расіі. Нацыянальны гнёт: царская Расія — турма народаў.

Дробнабуржуазная інтэлігенцыя, распаўсюджванне ў яе асяроддзі народніцкіх тэорый. Ліберальнае народніцтва 90-х гадоў (Міхайлоўскі) і яго паход супроць марксізма. Рэакцыйнасць народніцкіх тэорый і народніцкай тактыкі індывідуальнага тэрору, выключаючай арганізацыю масавай партыі. Народніцтва—злейшы вораг марксізма.

Утварэнне плеханаўскай «Групы вызвалення працы» (Жэнева, 1883 год). Прапаганда «Групай вызвалення працы» ідэй марксізма ў Расіі. Барацьба «Групы вызвалення працы» супроць народніцтва. Праграмы «Групы вызвалення працы» (1884 і 1887 гады) і іх недахопы.

«Група вызвалення працы» «толькі тэарэтычна аснавала соцыял-дэмакратыю і зрабіла першы крок насустрач рабочаму руху» (Ленін).

Палітычная рэакцыя ў Расіі ў 80-х гадах. Рабочы рух. Стачкі рабочых і характар гэтых стачак. Стачка 1885 года ў Орэхава-Зуеве і яе значэнне.

Марксісцкія гурткі 80—90-х гадоў (Благоева, Бруснева, Федасеева і інш.) Пачатак рэволюцыйнай дзейнасці Леніна (1887—1893 гады—Казань, Самара).

Прамысловы ўздым у другой палове 90-х гадоў. Эканамічныя стачкі рабочых.

Прыезд Леніна ў 1893 годзе ў Пецербург і яго барацьба за рэволюцыйны марксізм, за гегемонію пролетарыята, за стварэнне марксісцкай партыі рабочага класа ў Расіі.

Барацьба Леніна супроць народніцтва. Выкрыцце Леніным рэакцыйнасці народніцкай тэорыі, сродкаў і метадаў палітычнай барацьбы народнікаў. Значэнне работы Леніна «Што такое «прыяцелі народу» і як яны ваюють супроць соцыял-дэмакратаў?» (1894 год). Ідэйны разгром народніцтва, перамога марксізма.

З'яўленне ў Расіі «легальнага марксізма» (Струве, Туган-Бараноўскі). «Легальны марксізм»—спроба ліберальнай буржуазіі падпарадкаваць рабочы рух інтарэсам буржуазіі. Барацьба Леніна супроць «легальнага марксізма».

Ідэйны разгром народніцтва і «легальнага марксізма» як неабходная ўмова для перамогі рэволюцыйнага марксізма і стварэння рэволюцыйнай пролетарскай партыі новага тыпу.

Барацьба Леніна за пераход ад вузкай гуртковай прапаганды да масавай агітацыі сярод рабочых. Пецербургскі «Саюз барацьбы за вызваленне рабочага класа», створаны Леніным (1895 год), зачатак рэволюцыйнай партыі рабочага класа.

Дзейнасць «Саюза барацьбы» сярод рабочых Пецербурга. Стачачны рух пад кіраўніцтвам «Саюза барацьбы» (1895—1897 гады). Мясцовыя «Саюзы барацьбы» (Масква, Кіеў і інш.) і іх работа.

Арышт (1895 год) і ссылка (1897 год) Леніна. Кіраўніцтва Леніна рабочым рухам у час турэмнага зняволення і ссылкі.

Пачатак рэволюцыйнай дзейнасці Сталіна. Барацьба Сталіна ў 90-х гадах у Закаўказзі супроць «легальных марксістаў» і нацыяналістаў за рэволюцыйны марксізм. Арганізацыйная і прапагандысцкая работа Сталіна ў рабочых гуртках. Утварэнне Сталіным, Цулукідзе, Кецховелі першых рэволюцыйных соцыял-дэмакратычных груп ў Закаўказзі.

Узнікненне нацыянальных соцыял-дэмакратычных арганізацый (Польскай, Латышскай, Бунда).

Распаўсюджванне эканамізма. Прычыны праяўлення эканамізма: уплыў міжнароднага апартунізма (бернштэйніянства), уплыў дробнабуржуазных інтэлігенцкіх элементаў, пранікшых у рабочы рух, наяўнасць дробнабуржуазных элементаў у самым рабочым класе (адсталыя слаі рабочага класа, рабочая арыстакратыя).

Ленін—ініцыятар барацьбы з эканамізмам. «Крэдо» эканамістаў і ленінскі «Пратэст рускіх соцыял-дэмакратаў» (1899 год).

І з'езд РСДРП (Менск, 1898 год). Маніфест І з'езда. Значэнне І з'езда як этапа к стварэнню партыі.

Зварот Леніна з ссылкі і ад'езд яго за граніцу (1900 год) для кіраўніцтва справай арганізацыі партыі рабочага класа.

# Тэма II

## Утварэнне Расійскай соцыял-дэмакратычнай рабочай партыі і з'яўленне ўнутры партыі фракцый большэвікоў і меншавікоў (1901—1904 гг.)

Прамысловы крызіс у пачатку 900-х гадоў і ўздым рабочага руху. Пераход рабочага руху ад эканамічных стачак да палітычнай барацьбы з самадзяржаўем. Харкаўская маеўка 1900 года. Обухаўская абарона (май 1901 года). Стачкі ў Тбілісі. Палітычная дэманстрацыя батумскіх рабочых, кіруемая Сталіным (сакавік 1902 года). Растоўская стачка (лістапад 1902 года). Усеагульная стачка на Поўдні Расіі (1903 год). Уплыў пролетарскай барацьбы на ўздым дэмакратычнага руху ў іншых слаях насельніцтва. Студэнцкія хваляванні. Сялянскія хваляванні на Украіне (1902 год). Рост нацыянальнага руху у Закаўказзі, у Польшчы, на Украіне. Барацьба царызма з рэволюцыйным рухам. «Паліцэйскі соцыялізм» (зубатаўшчына, гапонаўшчына).

Становішча соцыял-дэмакратычных арганізацый у Расіі. Адсутнасць адзінага цэнтра і адзінай лініі, праграмы і статута партыі. Гуртко́ўшчына, разброд, хістанні.

Газета «Искра» (старая «Искра»—1900—1903 гады). Роля Леніна як стваральніка агульнарускай палітычнай газеты «Искра».

Барацьба «Искры» за стварэнне ў Расіі рэволюцыйнай партыі рабочага класа новага тыпу. Арганізацыйны план «Искры». Значэнне кнігі Леніна «Што рабіць?» (1902 год).

Барацьба Леніна і «Искры» супроць эканамізма. Ленін аб значэнні палітычнай барацьбы рабочага класа. Барацьба Леніна і «Искры» супроць хвасцісцкай тактыкі эканамістаў і супроць іх саматужніцтва у арганізацыйных пытаннях. Выкрыццё Леніным эканамізма як буржуазнай агентуры ў рабочым руху, як рускай рознавіднасці міжнароднага апартунізма (бернштэйніянства). Міжнароднае значэнне барацьбы Леніна супроць эканамізма.

Узнікненне партыі соцыялістаў-рэволюцыянераў (1902 год). Барацьба Леніна і «Искры» супроць эсэраўска-народніцкага тэрарызма ў гэты перыяд. Узнікненне палітычнай арганізацыі ліберальнай буржуазіі групы «Вызваленне» (1902 год) і выкрыццё «Искрой» яе антырэволюцыйнай сутнасці.

Утварэнне іскраўскіх арганізацый у Расіі і загранацаі. Агенты «Искры» — прафесіянальныя рэволюцыянеры. Бабушкін, Бауман, Літвінаў.

Сталін —праваднік і абаронца лініі ленінскай «Искры» ў Закаўказзі. Барацьба Сталіна ў Закаўказзі за ленінскі план арганізацыі партыі. Сталін—асновапаложнік першых соцыял-дэмакратычных арганізацый ленінска-іскраўскага напрамку ў Закаўказзі.

Падрыхтоўка «Искрой» II з'езда партыі. Рознагалоссі ўнутры рэдакцыі «Искры» па праграмных і тактычных пытаниях.

II з'езд РСДРП (Брусель—Лондан, 1903 год). Склад з'езда. Групіроўкі на з'ездзе. Задачы з'езда.

Барацьба Леніна за праграму партыі супроць эканамістаў (Акімаў, Мартынаў), супроць Троцкага ї інш.

Барацьба Леніна за рэзервы пролетарыята (пытанні нацыянальнае і сялянскае). Пытанні тактыкі (аб адносінах да ліберальнай буржуазіі, эсэраў).

Барацьба Леніна супроць Мартава і Троцкага па пытанню аб фармуліроўцы § 1 статута партыі. Гістарычнае значэнне барацьбы Леніна за § 1 статута. Пазіцыя Плеханава на з'ездзе.

Выбары цэнтральных органаў партыі і раскол на II з'ездзе. З'яўленне ўнутры партыі фракцый большэвікоў і меншавікоў.

Барацьба большэвікоў з меншавікамі і прымірэнцамі за рашэнні II з'езда РСДРП у 1903—1904 гадах. Падтрыманне большасцю мясцовых партыйных арганізацый рашэнняў II з'езда і пазіцыі большэвікоў. Выступленне меншавікоў супроць цэнтральных устаноў партыі і рашэнняў II з'езда. Пераход Плеханава на бок меншавікоў. Выхад Леніна з рэдакцыі «Искры» і пераход «Искры» у рукі меншавікоў.

Прымірэнцтва часткі членаў ЦК большэвікоў (Красін, Глебаў-Наскоў). Нарада 22 большэвікоў (1904 год). Утварэнне Бюро камітэтаў большасці.

Значэнне II з'езда ва ўтварэнні РСДРП. Міжнароднае значэнне расколу партыі на II з'ездзе і з'яўлення ўнутры партыі фракцый большэвікоў і меншавікоў.

Адносіны II інтэрнацыянала да расколу у РСДРП. VI Амстэрдамскі кангрэс II інтэрнацыянала (1904 год). Самастойная дэлегацыя большэвікоў на VI кангрэсе II інтэрнацыянала.

## Тэма III

### Меншавікі і большэвікі ў перыяд руска-японскай вайны і першай рускай рэволюцыі (1904-1907 гг.)

Становішча рабочых і сялян у Расіі напярэдадні рэволюцыі 1905 года. Нарастанне рабочага руху. Забастоўка ў Баку ў 1904 годзе, кіруемая Сталіным і яе уплыў на развіццё стачачнага руху ў краіне. Выступленні сялян супроць памешчыкаў. Нацыянальна-вызваленчы рух на акраінах.

Барацьба імперыялістычных дзяржаў за панаванне на Ціхім акіяне, за раздзел Кітая. Захватніцкая палітыка рускага царызма, сутычка царызма з японскім імперыялізмам на Далекім Усходзе. Руска-японская вайна (1904—1905 гады). Ленін аб рэволюцыйным паражэнцтве у сувязі з руска-японскай вайной.

Паражэнне царызма ў вайне. Уплыў руска-японскай вайны на абвастрэнне класавых супярэчнасцей у Расіі. Рост рэволюцыйнага і апазіцыйнага руху у краіне. «Земская кампанія». Адносіны да яе большэвікоў і меншавікоў.

9 студзеня 1905 года—пачатак рэволюцыі ў Расіі. Становішча у краіне пасля 9 студзеня: вясеннія стачкі, першамайскія дэманстрацыі, сялянскія хваляванні на вёсцы.

Расстаноўка класавых сіл у рэволюцыі 1905 года. Своеасаблівасць рускай рэволюцыі—першай рэволюцыі ва умовах імперыялізма. Пралетарыят—галоўная рухаючая сіла рэволюцыі, яе кіраўнік. Сялянства саюзнік рабочага класа ў барацьбе супроць самадзяржаўя. Клас памешчыкаў—аснова самадзяржаўна-памешчыцкага ладу. Хістанні ліберальнай буржуазіі ў пачатку рэволюцыі. Стварэнне канстытуцыйна-манархічнай партыі «канстытуцыйных дэмакратаў» (кадэты) партыі

ліберальнай буржуазіі. Барацьба большэвікоў за ізаляцыю ліберальнай буржуазіі.

Барацьба Леніна і Сталіна за склікание III з'езда партыі. Барацьба Сталіна за ленінскую, большэвіцкую лінію ў партыйных арганізацыях Закаўказзя супроць меншавікоў і прымірэнцаў. Роля Бюро камітэтаў большасці ў падрыхтоўцы III з'езда.

III з'езд партыі (Лондан, красавік—май 1905 года). Большэвіцкі склад з'езда. Рашэнні III з'езда: аб узброеным паўстанні, аб часовым рэвалюцыйным урадзе, аб адносінах да сялянскага руху, аб адносінах да іншых партый і т. д. Арганізацыйныя пытанні на III з'ездзе. Прынцце ленінскай фармуліроўкі § 1 статута.

Ленінскі план перарастання буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі у сацыялістычную. Лозунг большэвікоў «Рэвалюцыйна-дэмакратычная дыктатура пролетарыята і сялянства» ў святле ленінскага плана перарастання буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі ў сацыялістычную.

Жэнеўская канферэнцыя меншавікоў. Меншавіцкая тактыка у рэвалюцыі: пагадненне з ліберальнай буржуазіяй, падпарадкаванне пролетарыята палітычнаму кіраўніцтву буржуазіі, адмаўленне рэвалюцыйнай ролі сялянства. Тэорыя «перманентнай рэвалюцыі» Троцкага разнавіднасць меншавізма. Тактыка меншавікоў—тактыка поўбуржуазных элементаў пролетарыята, рамесленых рабочых і сялянскіх поўпролетарыяў. Барацьба большэвікоў супроць меншавіцкай лініі ў рэвалюцыі.

Фактычна самастойнае існаванне большэвіцкай партыі ў 1905 годзе.

Барацьба большэвікоў супроць астатніх дробнабуржуазных партый у рэвалюцыі 1905—1907 гадоў (бундаўцы, эсэры, працоўная група, народныя соцыялісты, анархісты).

Значэнне работы Леніна «Дзве тактыкі соцыял-дэмакратыі ў дэмакратычнай рэвалюцыі» (1905 год). Работа Сталіна «Ускользь аб партыйных рознагалоссях» (1905 год).

Развіцце рэволюцыйнага руху летам і ўвосень 1905 года. Пранікненне рэволюцыйнага руху у армію. Паўстанне на броненосцы «Поцемкин» (чэрвень 1905 года). Булыгінская дума і яе байкот большэвікамі.

Усеагульная кастрычніцкая палітычная стачка (кастрычнік 1905 года). Узнікненне першых советаў рабочых дэпутатаў ў Пецербургу і Маскве і адносіны да іх большэвікоў і меншавікоў. Узнікненне баявых дружын.

Маніфест 17 кастрычніка 1905 года. Пераход буржуазіі на бок контррэволюцыі. Выкрыццё большэвікамі маніфеста 17 кастрычніка як манеўра самадзяржаўя ў барацьбе з рэволюцыяй.

Прыезд Леніна ў Расію з-за граніцы (лістапад 1905 года). Барацьба рабочых і сялян Закаўказзя пад кіраўніцтвам Сталіна супроць самадзяржаўя.

Большэвікі—арганізатары ўзброенага паўстання. Снежаньскае узброенае паўстанне ў Маскве. Паўстанні ў правінцыі (Растоў-на-Дану, Донбас, Новарасійск, Урал, Сібір, Каўказ). Большэвіцкая і меншавіцкая ацэнкі ўрокаў узброенага паўстання.

Рэволюцыйная абстаноўка у 1906 годзе. Працяг рэволюцыйнай барацьбы рабочых і разгортванне сялянскага руху. Сялянскія паўстанні супроць памешчыкаў летам 1906 года. Паўстанні маракоў у Свеабаргу і Кранштаце (ліпень 1906 года).

Арганізацыйнае будаўніцтва і баявая работа большэвікоў. Тамерфорская канферэнцыя ў снежні 1905 года. Рашэнне канферэнцыі аб фармальным аб'яднанні з меншавікамі.

Выбары ў I думу (сакавік 1906 года). Тактыка большэвікоў (байкот) і меншавікоў (удзел у выбарах) у адносінах да I дзяржаўнай думы.

IV (Аб'яднаўчы) з'езд партыі (Стокгольм, красавік—май 1906 год) і яго асноўныя рашэнні. Барацьба Леніна і Сталіна на з'ездзе за большэвіцкую лінію ў рэволюцыі, супроць меншавікоў. Выступленні Сталіна на IV з'ездзе.

Разгон I думы (ліпень 1906 года) і выбары ў II думу (люты 1907 года). Раскол у Пецербургскай арганізацыі па пытанню аб выбарчай тактыцы пры выбарах у II думу (студзень 1907 года). Удзел большэвікоў у выбарах у II думу. Большэвіцкая тактыка левага блока супроць меншавіцкай тактыкі пагаднення з кадэтамі.

Уступленне меншавікоў у адкрыты блок з кадэтамі і барацьба большэвікоў за скліканне V з'езда партыі. V з'езд партыі (Лондан, май 1907 года). Асноўныя рашэнні з'езда і яго значэнне. Сталін аб лонданскім з'ездзе РСДРП—«Заметкі дэлегата». Перамога большэвікоў на з'ездзе—прынятце большэвіцкіх прапаноў.

Разгон II думы і дзяржаўны пераварот 3 чэрвеня 1907 года.

Паражэнне рэволюцыі. Часовая перамога самадзяржаўя. Наступленне паласы чорнай рэакцыі. Карныя экспедыцыі, чорнасоценныя пагромы супроць рабочых і сялян. Другая эміграцыя Леніна.

Прычыны паражэння рэволюцыі 1905—1907 гадоў. Міжнароднае значэнне рэволюцыі 1905—1907 гадоў. Рэволюцыя 1905—1907 гадоў — генеральная рэпетыцыя Вялікай пролетарскай рэволюцыі 1917 года.

## Тэма IV

### Меншавікі і большэвікі ў перыяд Сталыпінскай рэакцыі і афармленне большэвікоў у самастойную соцыял-дэмакратычную рабочую партыю (1908—1912 гг.)

Сусветны эканамічны крызіс (1907—1909 гады). Прамысловая дэпрэсія ў Расіі.

Сталыпіншчына—палітыка блока царызма з буржуазіяй. Сталыпінская аграрная рэформа—спроба самадзяржаўя абаперціся ў вёсцы на кулацтва. Тэрор царскага ўрада супроць рабочых і сялян. Адыход ад рэволюцыі няўстойлівых, дробнабуржуазных элементаў. Росквіт у дробнабуржуазна-інтэлігенцкіх колах упадніцкіх, рэлігійных настрояў і вучэнняў. Развал і разброд у дробнабуржуазных партыях меншавікоў, эсэраў і інш.

Партыя большэвікоў у падполлі. Барацьба Леніна і Сталіна за захаванне і ўмацаванне нелегальных партыйных арганізацый большэвікоў у Расіі і скарыстанне большэвікамі легальных магчымасцей. Работа большэвікоў у профсаюзах, бальнічных касах, кааперацыйных і іншых легальных і паўлегальных рабочых арганізацыях. Выбары ў III думу (кастрычнік 1907 года). Выкрыцце большэвікамі антыпартыйнай пазіцыі байкоту Дзяржаўнай думы (Каменеў і Багданаў).

Снежаньская агульнаруская канферэнцыя РСДРП (Парыж, 1908 год). Ацэнка большэвікамі бягучага моманту і перспектыў рэволюцыі. Барацьба большэвікоў за «няўрэзаныя лозунгі»: дэмакратычная

